Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 20 (4871) 20 мая 2016 г.




Фота Марыі Войцік.

Валянцін Губараў.

# Праз замочную шчыліну, ці Прывабнасць звычайнага

*(вачамі Валянціна Губарава)*

**Творы мастацтва, што інтэгруюцца ў гарадскую прастору, становяцца часткай вуліц: ратуюць ад штодзённасці, адцягваюць ад бегу па заведзенай траекторыі, вучаць заўважаць прыгожае. 26 мая на плошчы Якуба Коласа, у Мінску, адкрываецца пяты выставачны праект «Мастак і горад». Яго цэнтрам стала творчасць Валянціна Губарава, аднаго з самых народных сучасных мастакоў Беларусі. Ён нічога не прыдумляе. Усё — з жыцця. Тое, што бачыў, перажываў, любіў. Пераасэнсаванне праходзіць на мяжы дасціпнасці. У прастадушнасці шмат сэнсу, падтэксту, метафар. Карціны выглядаюць нібы аповесці пра тое, як любяць і лаюцца, усміхаюцца і сумуюць, збіраюць бульбу ці п'юць гарбату з самавара, прымяраюць вопратку перад люстэркам альбо мараць каля акна побач з катом. Знаёмыя рэчы, інтымныя, сумленныя падрабязнасці. Мастак любіць сваіх герояў, спачувае ім.**

## ПРА ШЧЫРАСЦЬ І СТЫЛЬ

На першы погляд яго мастацтва наіўнае, яго нават адносяць да прымітывізму, але Валянцін Губараў выдатна валодае акадэмічнай тэхнікай. Як пацвярджэнне — ідэальна выверанья класічныя партрэты на сценах майстэрні. «Вучонасць нярэдка перашкаджае быць шчырым. Фраза Пікаса пра тое, што ў юныя гады ён пісаў карціны як Рафаэль, а ўсё жыццё патраціў на тое, каб маляваць як дзіця, — поўнасцю пра мяне. Калі ты абцяжараны жыццёвым досведам, цяжка захоўваць чысты погляд. Але трэба не пераставаць здзіўляцца. Мастак — не той, хто дакладна ведае перспектыву і прапорцыі, а той, хто па-свойму бачыць, адчувае, прапускае ўсё праз сябе. Гэта і ёсць наіўнасць, амаль самы каштоўны для мяне складнік творчасці», — кажа Валянцін Губараў.

Мастацтва, на яго думку, павінна быць «шурпатым», таму што з глянцавых паверхняў усё скочваецца, не застаючыся ў памяці. Таму і жанчыны ў яго, напрыклад, пышныя, з вялікімі насамі, далёка не мадэльнай знешнасці, затое запамінальныя. Як паненка на свецкім раўце, у якой парваліся калготкі. Усплыве ў памяці яна, а не сотні іншых, выдатных, але аднолькавых.

«Я доўга шукаў індывідуальны почырк. Да гэтага павінны імкнуцца ўсе маладыя творцы. Так, ёсць перыяд перайманья. Але да пэўнага часу. І яшчэ: мастаку нельга губляць першую думку. Што стрэльнула ў галаву, то і трэба маляваць. Прытрымлівацца толькі свайго нюху, прыроднага. Забываць пра пакупнікоў, журналістаў, крытыкаў, уладальнікаў галерэй, моду. Усе мае карціны атрымліваюцца як «экалагічна чысты прадукт», заснаваны на асабістых парывах. Мне ніхто ніколі не дыктуе. Трэба не баяцца выбівацца з агульнага трэнду, стаяць асабняком. Тады і выйдзе нешта вартае», — адзначае мастак.

Чытайце на стар. 12 ▶


«30 год разам», 2009 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў арганізатараў і ўдзельнікаў выстаўкі «Іканапіс Беларусі XVII — XXI стагоддзяў» з адкрыццём экспазіцыі ў музеях Ватыкана. «Гэты ўнікальны праект, які праходзіць у абʼяўлены ў Беларусі Год культуры, дэманструе непарыўныя духоўныя і эстэтычныя сувязі еўрапейскіх народаў, іх адданасць рэлігійным ідэалам і каштоўнасцям», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што паказ нацыянальнага іканапісу Беларусі ў сценах Ватыкана — знамянальная падзея і важны крок на шляху асэнсавання вельмі каштоўнай спадчыны беларускай культуры, неадʼемнай часткай якой зʼяўляецца хрысціянскае мастацтва.

✔ У межах Года культуры Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь урачыста адкрыў арт-прастору ў дворыку музея і прэзентуе выстаўку фотамастака Марыны Бацюковай «Сула. Непарыўнае». Арт-праект працягвае традыцыю, закладзеную два гады таму пад назваю «Стары новы двор». Цяпер ён напаўняецца новым зместам: гэта спалучэнне архітэктуры, фотамастацтва і мастацтва медыя. У панараму гарадскіх будынкаў пачатку XX стагоддзя ўдала ўпісаліся шырокафарматныя каляровыя фотаздымкі, прысвечаныя вясковаму абраду «Ваджэнне і пахаванне стралы», які зʼяўляецца нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасцю Беларусі.

✔ Пераможцаў XII Нацыянальнага тэлевізійнага конкурсу «Тэлевяршыня» ў 25 намінацыях і ўладальніка тытула «Лепшы вядучы» па думку тэлегледачоў назавуць сёння на ўрачыстай цырымоніі ў палацы Рэспублікі. Акрамя пераможцаў у намінацыях, стануць вядомыя ўладальнікі спецыяльных прызоў. Заснавальнікамі конкурсу выступаюць Міністэрства інфармацыі Беларусі, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, ЗАТ «Другі нацыянальны тэлеканал» і ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне».

✔ У Нясвіжы гэтымі днямі ладзіцца XXI свята мастацтваў «Музы Нясвіжа». Арганізатары — Мінскі аблвыканкам, Нясвіжскі райвыканкам і Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Фінберга. Упершыню ў Нясвіжскім касцёле — выступленне струннага аркестра і яго салістаў «Адвечная музыка пад купалам Нясвіжскай святыні», а ў тэатральнай зале палацавага ансамбля — канцэрт камерных калектываў «У гонар нясвіжскіх маэстра» (да 270-годдзя Яна Голанда і 265-годдзя Мацея Радзівіла). Свята завершыць святочны канцэрт эстраднай песні і музыкі «Прыгадваем любімыя матывы», які прадставіць Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі.

✔ Традыцыйныя народныя і сучасныя лялечныя пастаноўкі прапанавалі гледачам удзельнікі фестывалю «Чароўны свет батлейкі», які прайшоў у сядзібе Залессе Смаргонскага раёна на радзіме Міхала Клеафаса Агінскага. Паводле спецыялістаў, мясцовыя калектывы не толькі адрадзілі традыцыю сямейных і кірмашовых тэатраў, але і далі ім другое жыццё, развіваюць гэты напрамак у сучасным рэчышчы. Іх пастаноўкі ўключаны ў турыстычныя маршруты на тэрыторыі раёна.

# Куды пайсці ў «Ноч музеяў»?

У Год культуры сваю дзейнасць музеі імкнуцца прадставіць так, каб народ захапіўся і сачыў за экспазіцыйнымі навінкамі. Карэспандэнты «ЛіМа» даведаліся, якія эксклюзівы сёлета чакаюць наведвальнікаў дзяржаўных выставачных пляцовак падчас музейнай ночы — 21 мая:

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

прапануе апынуцца на мяжы мінулага і будучыні, дзе сённяшні час наогул адсутнічае. Чалавек зможа выбраць сам, што бліжэй: пышныя, упрыгожаныя залатымі ніткамі, спадніцы, шыкоўныя смокінгі і элегантныя кій альбо адваротная канцэпцыя — тканіны будучыні, што адпавядаюць правілам экалагічнасці. Ідэя мастацкага — выцягнуць чалавека з паўсядзённасці, дапамагчы адчуць эмоцыі незвычайнага, свабоду выбару. Яшчэ адна з галоўных цікавінак — адкрыццё выстаўкі «Сацыялістычны сюррэалізм. Нонканфармісцкае мастацтва з калекцыі Андрэя Плясанава».

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Два інтэрактыўныя праекты, новыя для краіны па фармаце: выстаўкі «Ілюзорыум» і «Эксперыментус» будуць працаваць у асноўным корпусе музея (вул. К. Маркса, 12). Першы праект — 3D-карціны, распрацаваныя дызайнерамі краін СНД. Галоўная разынка экспазіцыі — творы да канца не скончаныя. Глядач, нібы прафесійны рэжысёр, зможа сам мадэляваць сюжэт, толькі неабходна стаць у правільную пазіцыю, каб упісацца ў тэматыку твора. Другая экспазіцыя — навуковая: госці ўбачаць прыборы, якія дэманструюць фізічны бок разнастайных па прыгажосці зʼяў у прыродзе.

### МУЗЕЙ КНІГІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ

запрашае мінчан і гасцей сталіцы завітаць у госці да Францыска Скарыны, дзе для людзей любога ўзросту знойдзецца забава. Напрыклад, у камандны гульні-спаборніцтве па складанні пазлаў «Складзі Францыска Скарыну» змогуць паўдзельнічаць як дарослыя, так і малыя. Таксама прадстаўнікі розных пакаленняў змогуць дапамагаць адзін аднаму ў выстаўцы-конкурсе на арыгінальную размалёўку першадрукара.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР СУЧАСНЫХ МАСТАЦТВАЎ

прапануе стаць геніяльным творцам, паглыбіўшыся ў бязмежны свет мастацтва пад знакамі Сальвадора Далі, Фрыды Кало, Марка Шагала, Рэнэ Магрыта. Будзьце ў трэндзе — паглядзіце спектакль Эндзі Уорхала, адчуйце сябе мастакомканцэптуалістам, разбярыцеся ў сэнсе фатаграфій і калажаў, атрымайце асалоду ад дызайнерскай калекцыі адзення і светлавога жывапісу. Ёсць магчымасць стварыць сваімі рукамі адно з сусветна вядомых палотнаў.

### ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ЯНКІ КУПАЛЫ

Урачыста, па-вясельнаму, з сімвалічнай цаной за ўваход і ўнікальнымі фотаздымкамі з вяселля Купалы. Стагоддзе з дня вянчання паэта і Уладзіславы Станкевіч будзе цэнтрам музейнай ночы — пад гукі духавога аркестра. Дапаўненнем стануць майстар-класы па стварэнні абярэгаў і выступленне адразу сямі музычных калектываў. На дэсерт — чытанне вершаў.

### ЛІТАРАТУРНА-МЕМАРЫЯЛЬНЫ МУЗЕЙ ЯКУБА КОЛАСА

прэзентуе праграму з сімвалічнай для начнога часу назвай «Святло ў акне». Цвік праграмы — інтэрактыўная квэст-гульня «Мінскія адрасы Якуба Коласа». Удзельнікі падзеляцца на дзве каманды. Кожная



атрымае падказку, як дабрацца да наступнага абʼекта з падказкай. Падчас квэсту каманды выконваюць шэраг заданняў: разгадваюць галаваломкі, спаборнічаюць у фотапаляванні. Галоўная задача квэсту — паказаць удзельнікам вулачкі Мінска такімі, якімі іх калісьці бачыў Якуб Колас.

Не менш цікавая музейная акцыя «*Travel* — фотасушка», для прафесійных фотамастакоў і аматараў прыгожай фатаграфіі.

### ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Адчуйце сябе сапраўдным дэтэктывам нароўні з Шэрлакам Холмсам і акуніцеся ў крымінальную атмасферу пачатку XX стагоддзя! Тут можна будзе пазнаёміцца са знакамітым «Інтымным дзённікам» паэта, правесці сваю фотаэкспертызу і паслухаць Піта Паўлава з цікаўным праектам. Галоўнае — не заблукаць у сведчаннях, доказах і алібі.

### ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ

запрашае прыняць удзел у праграме «Будзь Петрусём», адной з галоўных навінак якой будзе гарадскі турнір па хуткасным наборы на друкарках. Пасля дакладнага інструктажу ўдзельнікі апынуцца на месцы Алены Броўкі, якая калісьці набірала вершы з чарнавікоў народнага паэта. Аднак проста пасядзець каля друкарак не атрымаецца: трэба будзе спаборнічаць за тое, каб найхутчэй набраць тэкст. Наведвальнікам з імёнамі Пятрусь, Пятро, Пэдра, Пʼер, Петрус, Пітэр літаратурны музей абяцае вольны ўваход.

### МУЗЕЙ «ЛОШЫЦКАЯ СЯДЗІБА»

ў музейную ноч дае графскі баль. Апошні ўладальнік сядзібы Яўстафій Любанскі разам з прыгажуняй жонкай Ядзвігай будзе сустракаць гасцей у вялікай гасцёўні лошыцкага маёнтка. Меладычная атмасфера містычнасці перанясе наведвальнікаў у знакамітыя музычныя салоны XIX стагоддзя. Паднyўшыся ў вялікую экспазіцыйную залу, госці атрымаюць магчымасць пачуць таленавітыя беларускія галасы ў гуказапісе на выстаўцы фанографаў і грамафонаў. У кафэ «Лошыцкі фальварак» будуць частаваць разнастайнымі прысмакамі ад гаспадароў сядзібы.

### БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Рэтра-аўтамабілі, міліцэйская форма мінулых гадоў і сучаснае ўзбраенне — на выстаўках у гэты дзень. Наведвальнікаў чакае таксама канцэрт кампазітара, паэта-песенніка Юрыя Сяверына і гітарыста Вячаслава Сундзікава.

### ГОМЕЛЬСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ

Атмасфера фантастыкі, падарожжа скрозь стагоддзі і паралельныя сусветы... Наведвальнікі даведаюцца, як мецъ зносіны з дамавікамі і русалкамі, ратавацца ад лесавікоў у дрымучым лесе і арыентавацца ў чароўным лабірынце. Давядзецца знайсці пасланне з прадказаннем будучыні ад старажытнагрэчаскіх багоў, атрымаць урок зеллеварэння і паназіраць за медыумамі. Атмасферу дапоўняць неверагодныя скульптуры Сяргея Парцянкова.

* * *

Акцыі, прымеркаваныя да Ночы музеяў, ужо прайшлі ў Брэсце, Гродне і Віцебску, але раней, пачынаючы з 17 мая.

**Вікторыя АСКЕРА, Марыя ВОЙЦІК**

# Яраслаўскія матывы

## як адценні радзімы ў творчым жыцці Барыса Аракчэева

На працягу года ў розных гарадах і мястэчках Беларусі будуць адкрывацца выстаўкі малавядомых твораў Барыса Аракчэева. Выстаўка «Яраславія», што працуе ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47), стала чацвёртай экспазіцыяй, арганізаванай у межах мастацкага праекта дачкой мастака Аксанай Аракчэевай.

«Яраславія» — не проста прыдуманая назва для выстаўкі, гэта радзіма Барыса Аракчэева, якому сёлета споўнілася б 90 гадоў. Цыкл прадстаўленых твораў — бязмежны сінтэз любові яраслаўскай і беларускай зямель, якія па сэнсе і значэнні сталі аднолькава дарагімі сэрцу мастака.

Аксана Аракчэева на адкрыцці выстаўкі паказала цікавы альбом, дзе яе бацька пісаў невялічкія ўспаміны пра родны дом, пра пах і прыгажосць яраслаўскай зямлі.

Творы на выстаўцы адлюстроўваюць, наколькі пранікнёна і ўдумліва аўтар прасочваў суадносіны прасторы. Ён тонка размяжоўваў светлыя і цёмныя колеры, акцэнтуючы ўвагу на адным абʼекце: мясцовыя храмы, высокія дрэвы з галінамі, якія разлятаюцца ў паветры ад моцнага ветру, сонечныя, вясновыя паляны.

Мноства работ, што дэманструюцца ў экспазіцыі, былі зроблены Барысам Аракчэевым з 1979 па 1981 год. Менавіта ў гэты перыяд мастак на працяглы перыяд выязджаў на радзіму, плённа працаваў там над стварэннем такіх цікавых эцюдаў, як «Пейзаж з белым параходам», «Ветрана на Волзе», «Яраслаўль. Крэмль», і іншых. На палотнах творца захаваў некаторыя абʼекты архітэктуры, якія сёння на яраслаўскіх тэрыторыях ужо нельга ўбачыць.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Няма адлегласці для павагі,

## ці Далёкі і блізкі Азербайджан

У Баку, у клубе «Натаван», Саюз пісьменнікаў Азербайджана правёў прэзентацыю кнігі Алеся Карлюкевіча «Прыгоды Максімкі на Бацькаўшчыне і ў іншых краінах», якая пабачыла свет летась, у 2015 годзе, у перакладзе на азербайджанскую мову.

Перакладчык — вядомы азербайджанскі празаік Камран Назірлі, які падтрымлівае добрыя сувязі з Беларуссю. Таксама як і Алесь Карлюкевіч, ён член Саюза пісьменнікаў Азербайджана. Аповесць-казка пра Максімку — ужо трэцяя кніга нашага земляка, выдадзеная ў Баку. Дзве папярэднія пераклала на азербайджанскую мову Севіндж Нурукызы.

**Наталля АСМОЛА**

# Першы ў свеце «Буквар»

## мае беларускае паходжанне

Гэты факт здолелі даказаць айчынныя навукоўцы. Адкрыццё ўдалося зрабіць падчас візіту ў Лондан Алеся Сушы, намесніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і старшыні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

У свеце захавалася толькі два асобнікі ўнікальнага выдання. Адзін з іх, няпоўны, знаходзіцца ў Даніі. Другі — у Бібліятэцы Мідл Тэмпл, у Вялікабрытаніі, дзе некалі мелі рэзідэнцыю рыцары-тампліеры. У гэтай кніжніцы і былі зроблены даследаванні.

Раней ні ў аднаго з беларускіх даследчыкаў не было магчымасці ўбачыць «Буквар» на ўласныя вочы. На радзіме асобнікаў не захавалася: іх зачыталі «да дзірак», як часта бывае з вучэбнымі выданнямі. Адну з кніг у пачатку XVII стагоддзя набыў калекцыянер Роберт Эшлі. Пазней яна трапіла ў закрыты збор лонданскіх барыстараў, дзе і захоўваецца па сёння.

«Кніга была выдадзена ў 1618 годзе ў друкарні Віленскага Свята-Духава праваслаўнага брацтва ў Еўі, аднаго з найбуйнейшых беларускіх выдавецтваў таго часу, — паведаміў Алесь Суша. — Гэты буквар царкоўна-славянскай мовы з азбукай і малітвамі быў прызваны навучыць не толькі грамаце, але і духоўнасці».

Адметна, што спецыялісты здолелі зрабіць лічбавыя копіі «Буквара», і цяпер у беларусаў ёсць магчымасць узнавіць выданне ў выглядзе факсімільнага. Акрамя таго, актыўна абмяркоўваецца ідэя святкавання 400-годдзя выдання ў 2018-м і стварэння музея буквара ў Оршы.

**Ганна ПАЛЯКОВА**



*У пісьменніцкім асяродку*

# Хвалі чытання

На юбілейным творчым вечары пісьменніцы, сябра СПБ, Саюза пісьменнікаў Расіі і Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Наталлі Саветнай, які ладзіўся ў культурна-асветніцкім цэнтры «Гарадок» (г. Гарадок Віцебскай вобласці), прапанавалі пазнаёміцца з новымі кнігамі аўтара. Гэта два паэтычныя зборнікі — «На зямным падсвечніку» (у перакладах на ўкраінскую і англійскую мовы Вольгі Сафронавай і Таццяны Рыжовай) і «Венчыкі златыя» (у перакладах на беларускую Аксаны Ярашонак-Камінскай). Быў прадстаўлены і «Слоўнік эпітэтаў Наталлі Саветнай па кнізе лірыкі "Убачыць вецер"», укладзены лексікографам Анатолем Бясперстых. Гэтае выданне сёлета пабачыла свет у Санкт-Пецярбургу. Падчас сустрэчы гучалі вершы і песні на словы Наталлі Саветнай.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў уручыў юбілярцы медаль «За вялікі ўклад у літаратуру». Наталля Віктараўна займаецца не толькі літаратурнай працай, яна яшчэ і дырэктар Псіхалагічнага рэабілітацыйнага цэнтра «МІРВЧ». Пра гэта рэдакцыя «ЛіМа» даведалася ад галоўнага рэдактара газеты «Городокский вестник» Ганны Навумавай.

Гасцямі сталічнай гімназіі № 20 сталі паэтэса Ніна Галіноўская і галоўны рэдактар газеты «Шапокляк», мастак Анатоль Гармаза. Ініцыявала сустрэчу паэтэса Іна Фралова, якая кіруе школьным літаратурным гуртком «Верасок».

Ніна Галіноўская, з творамі якой гімназісты добра знаёмыя па падручніках, узгадала апаленае вайною дзяцінства, а пасля прапанавала навучэнцам загадкі і вершы.

Сталічная публічная бібліятэка № 22 г. Мінска сумесна з бібліятэкай сярэдняй школы № 25 арганізавалі свята дзіцячай кнігі «Нам Кніга — вечнае святло, крыніца ведаў, цуд бясконцы!» для вучняў другіх класаў. На свята быў запрошаны пісьменнік, старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў.

Загадчык бібліятэкі № 22 Наталля Ярашэвіч паведаміла рэдакцыі «ЛіМа» і пра выстаўку кніг Міхася Пазнякова. Асобна творца прадставіў серыю кніг выдавецтва «Народная асвета» для малодшых школьнікаў «Свет вакол нас». На працягу сустрэчы гучалі дзіцячыя песні на словы Міхася Пазнякова ў выкананні кампазітара і спевака Аляксандра Якіменкі і дзіцячых калектываў.

На сустрэчу са старшакласнікамі сталічнай школы № 117 завітала сябра СПБ, аўтар трох паэтычных зборнікаў Вольга Норына. Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» распавяла вучаніца СШ № 117 Кацярына Маскалёва. Вольга Міхайлаўна падзялілася з вучнямі ўспамінамі пра родную школу, настаўнікаў. Падчас сустрэчы гучалі яе вершы ў аўтарскім выкананні і запісы песень на яе словы. Паэтэса піша па-руску і па-беларуску.

# Вяртанне і вера

Аўтару гэтых слоў, Барысу Сачанку, сёлета споўнілася б 80 гадоў. Яго жыццё абарвалася раптоўна: 5 ліпеня 1995 года пісьменнік памёр у сваім рабочым кабінеце. «Я ніколі не трачу веры ў перамогу дабра над злом, у перамогу беларускай справы, беларускага слова. І веру ў той час, калі беларуская кніга будзе ў кожнай хаце, яе будуць чытаць і школьнік, і дарослы... І, вядома ж, размаўляць на роднай мове ўсюды: і дома, і на працы. Але дзеля гэтага трэба кожнаму з нас, свядомых беларусаў, вельмі шмат рупіцца».

Словы Сачанкі — не проста словы, не голая вера ў светлую будучыню. Ён аддаў жыццё беларускай справе, пішучы прозу пра сваё пакаленне, пра перажытыя выпрабаванні, якія выпалі на лёс многіх яго сучаснікаў. Яму самому не было і шасці гадоў, калі пачалася вайна, калі попелам стала родная вёска. Праз гады Барыс Сачанка звернецца да гэтых успамінаў, стаўшы адным з першых, хто ўзняў тэму беларускіх Хатыняў. Верным застанецца і малой радзіме: згадаем празаічны цыкл «Палессе».

Сям'ю Сачанкаў вывезлі як рабоў на ферму нямецкага землеўласніка. Вызваленне прыйшло толькі ў маі 1954-га. Гэтая балесная памяць таксама стане прозай, выльецца ў шэраг інтэрв'ю, прысвечаных эміграцкай праблеме.

Ён друкаваў сатыру, перакладаў, вяртаў з небыцця невядомыя творы Я. Купалы, Я. Коласа, В. Ластоўскага, Л. Геніюш, У. Жылкі, А. Салаўя... Сачанка напісаў сцэнарый дакументальнага фільма «Алесь Гарун». Таксама вяртанне імя, а яшчэ — сугучча з уласна перажытым: выгнанне, праца на чужыне, адданасць беларускаму слову.

Цяпер ён і сам у пэўным сэнсе да нас вярнуўся: зусім нядаўна выйшла кніга «Пад сузор'ем сярпа і молата», якую Барыс Сачанка ўклаў яшчэ ў 1990-я. Дваццаць гадоў давялося чакаць «апошняга» слова пісьменніка. Што ж, тым цікавей параўнаць колішняе і сучаснае. Пабачыць, ці не марныя былі спадзевы празаіка.

# Ноч паэзіі ў Купалаўскім

Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы далучаецца да сусветнай акцыі «Ноч музеяў» — у паэтычным фармаце.

На Камернай сцэне тэатра 21 мая а 21-й гадзіне купалаўцы будуць чытаць вершы беларускіх паэтаў пад жывую музыку. Прагучаць паэтычныя творы чатырох пакаленняў творцаў, ад класікаў да сучаснікаў: Янка Купала, Максім Багдановіч, Уладзімір Жылка, Ігнат Канчэўскі, Ніна Мацяш, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Міхась Стральцоў, Уладзімір Караткевіч, Уладзімір Арлоў, Галіна Дубянецкая, Алег Мінкін, Алесь Разанаў, Анатоль Сыс, Таццяна Сапач, Андрэй Хадановіч, Марыйка Мартысевіч, Уладзь Лянкевіч, Антон Рудак і многія іншыя.

Трапіць на Камерную сцэну тэатра можна праз службовыя дзверы з боку Аляксандраўскага сквера. Уваход вольны!

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Упершыню

## ў БДУ выдадзены руска-беларуска-кітайскі слоўнік лінгвістычных тэрмінаў

Рэдкі вучэбны міні-каталог з'явіўся ў сувязі з неабходнасцю ўвядзення тэрміналагічнай лексікі на рускай і беларускай мовах у актыўную лексіку студэнтаў з Кітая, патлумачылі ў прэс-службе БДУ. Аўтарскі калектыў слоўніка міжнародны. Складальнікамі беларускай і рускай частак выступілі супрацоўнікі кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства філалагічнага факультэта БДУ. Кітайская тэрміналогія распрацоўвалася навуковымі супрацоўнікамі Даляньскага політэхнічнага ўніверсітэта і Чанчуньскага інстытута міжнароднай камерцыі (КНР).

Слоўнік утрымлівае 1665 тэрмінаў на беларускай, рускай і кітайскай мовах. Граматычныя звесткі прадстаўленыя ў выглядзе 80 табліц. Спіс выкарыстанай спецыялізаванай літаратуры ўключае як вядомы «Даведнік па правапісе і стылістыцы» Дзітмара Разенталя, так і слоўнік, выпушчаны пад рэдакцыяй Ван Фу Яна ў 2008 годзе.

Як адзначаюць у БДУ, апошнім часам у замежных студэнтаў адзначаецца рост цікавасці да беларускай мовы. Амаль 20 гадоў на філалагічным факультэце ўніверсітэта існуе спецыялізацыя «Беларуская мова як замежная». Студэнты маюць магчымасць пазнаёміцца з беларускай мовай у межах вучэбных курсаў «Беларуская мова (уводзіны)» і «Прафесійная лексіка». Спрыяе папулярызацыі і Міжнародная школа беларускай мовы.

Як высвятляецца, беларускую мову і літаратуру актыўна вывучаюць і ў Кітаі. Чакаецца, што ў перспектыве новая спецыяльнасць «Беларуская мова» будзе ўведзеная ў праграму Пекінскага ўніверсітэта замежных моў і культур.

**Іна ЛАЗАРАВА**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**23 мая** — *на юбілейны творчы вечар празаіка Веры Зелянко ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**24 мая** — *у Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур (вул. Чычэрына, 19) на літаратурна-музычнае мерапрыемства «Дзень славянскага пісьменства». Пачатак у 14.30.*

**24 мая** — *на Урок мужнасці ў СШ № 77 (вул. Крупскай, 10) з удзелам пісьменнікаў — дзяцей вайны і маладых паэтаў. Пачатак у 13.30.*

**25 мая** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Верасок» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 80). Пачатак у 15.15.*

**25 мая** — *на святочную імпрэзу, прысвечаную 50-годдзю дзіцячай бібліятэкі № 5 (вул. Русіянава, 48). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**25 мая** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16) на творчы вечар паэта Уладзіміра Мазго. Удзел бяруць вядомыя спевакі і кампазітары. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**26 мая** — *на юбілейны творчы вечар паэтэсы Алены Кошкінай «Душа і плача і ляціць», які адбудзецца ў паэтычным клубе «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**29 мая** — *на сустрэчу з полацкімі паэтамі ў літаратурны сквер «Дзень вясенні, дзень лірычны» ў межах паэтычнага open-air «Вершы над горадам» (г. Полацк, пляцоўка ля знака «Цэнтр Еўропы»). Пачатак у 11.00.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**26 мая** — *на адкрыццё музейнай экспазіцыі, прысвечанай 95-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Макаёнка, у Гомельскую абласную ўніверсальную бібліятэку імя У. І. Леніна (г. Гомель, плошча Перамогі, 2а) з удзелам сяброў аддзялення. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**31 мая** — *на вечарыну «Осталось хрупкое мгновенье до первых выстрелов войны», прымеркаваную да 75-годдзя з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў літаратурна-мастацкі салон «Сустрэчы на Замкавай» на базе Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. І. Герцэна (г. Гомель, вул. Савецкая, 26). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**31 мая** — *на творчы вечар пісьменніка Васіля Ткачова «Шчодры сэрцам і талентам» у бібліятэку-філіял № 15 г. Гомеля (вул. Яфрэмава, 2, корп. 1). Пачатак а 12-й гадзіне.*

# Медыя як люстэрка культуры

## Шырокае інфармацыйнае поле і нацыянальныя інтарэсы

**Задача — сумясціць і зрабіць так, каб адно другому не супярэчыла. Складана, асабліва ва ўмовах інфармацыйнага грамадства, калі падзелы на краіны і тэрыторыі становяцца больш умоўнымі: для медыя цяперашняга часу не існуе межаў, і ў любой кропцы свету можна хутка даведацца пра тое, што адбываецца на адваротным баку Зямлі. Але карціна будзе няпоўнай, калі жыццё ў якой-небудзь кропцы (тэрыторыі, краіне) выпадае з разгляду. Кожны народ мае інтарэс быць упісаным у сучасную гісторыю — не толькі для сябе самога, асэнсаваўшы свой шлях у свеце, але і для іншых, каб гэты шлях не губляўся далей.**




Фота Кастуся Дробава.

Жаданне іграць сваю ролю ў шырокай сусветнай прасторы наша краіна дэманструе на розных узроўнях, у тым ліку праз сістэму масмедыя. Пра гэта сведчыць правядзенне ў Беларусі медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні». Сёлета ўдзел у ім узялі прадстаўнікі СМІ 21 краіны. Але інфармацыйныя прыярытэты чыталіся паводле некаторых дат, на якія асабліва звярталася ўвага: 25-годдзе Садружнасці Незалежных Дзяржаў і 20-годдзе стварэння Саюзнай дзяржавы. Тая прастора, якая ўплывала на развіццё нашай краіны ўсё мінулае стагоддзе, уцягвае ў працэсы, якія ідуць унутры і зараз, што і ўплывае на існаванне нацыянальнай сістэмы СМІ. Але Беларусь і тут імкнецца засведчыць ролю міратворцы ў выбудоўванні добразычлівых адносін паміж дзяржавамі праз вобраз, які ствараецца ў СМІ, на што звярнула ўвагу міністр інфармацыі краіны Лілія Ананіч. У рэзалюцыі форуму зазначана імкненне да фарміравання агульнай інфармацыйнай і гуманітарнай прасторы, «заснаванай на сістэме агульнасці светапоглядных інтарэсаў, духоўных традыцый і каштоўнасцей». Але пацверджана жаданне «інтэгравацца ў сусветную супольнасць на аснове нацыянальных інтарэсаў, што аб'ядноўваюць родныя народы адзінай цывілізацыйнай платформы». Думка пра магчымасць захоўвання нацыянальных інтарэсаў у рамках агульных праектаў у галіне інфармацыі, пра канструктыўны дыялог прадстаўнікоў розных народаў у межах агульнай інфармацыйнай прасторы прагучала з вуснаў намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Ігара Бузоўскага.

Сапраўды, дыялог — гэта зносіны роўных, калі ёсць узаемнае жаданне даведвацца адно пра аднаго. Калі слухаем мы і пры гэтым чуюць нас. У нас ёсць жаданне быць пачутымі, таму і ладзіцца медыяфорум, на які сёлета прыехалі запрошаныя госці, у прыватнасці Рыгор Рапота, дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы, Сяргей Лебедзеў, старшыня Выканаўчага камітэта СНД, Аляксей Волін, намеснік міністра сувязі і масавых камунікацый Расійскай Федэрацыі. Адзначалася і напружаная праца журналістаў у вельмі хуткім рытме, які паскараецца з развіццём найноўшых тэхнічных сродкаў. Гаварылася пра тое, што ўвагу «спажыўца» медыяпрадукцыі (асабліва ў шырокай прасторы) можна заслужыць цікавымі і арыгінальнымі тэкстамі. І што інфармацыя — таксама прадукт, які прадаецца, а гэта значыць, яго трэба ўмець прадаць. Гэтая думка выклікала гарачыя спрэчкі ў адной з панэляў медыяфоруму: ці ўсё трэба вымяраць катэгорыямі «прадукт» і «цана» ў дачыненні да кантэнту, які прапаноўваюць СМІ? Асабліва калі справа тычыцца СМІ, якія прадстаўляюць культуру асобнага народа, нацыі. Тады сродкі масавай інфармацыі самі з'яўляюцца часткай нацыянальнай культуры.

Культура — складаная з'ява, якую некаторыя даследчыкі лічылі асаблівай формай, утваранай людзьмі, і параўноўвалі яе з жыццём чалавека (у прыватнасці славутыя даследчыкі культуры Освальд Шпенглер і Мікалай Бярдзяеў). Асобная жывая істота — нацыянальная культура. Сістэма СМІ ў ёй — праява цывілізацыйнага развіцця, але як з'ява культуры — гэта нібыта орган у агульным жывым арганізме, які мае пэўныя задачы і выконвае іх, каб арганізм існаваў паўнавартасна. Орган унутраны, які не толькі служыць арганізму, але і сам ад яго сілкуецца (гісторыяй, ідэямі, з'явамі, тэмамі). Сродкі масавай інфармацыі ў працэсе развіцця чалавечай культуры як асобная частка ў ёй узніклі гістарычна і развіваліся ў часе ў залежнасці ад таго, як мянялася жыццё людзей і самі людзі. СМІ як культурны інстытут з'яўляюцца ўстойлівым утварэннем, якое ўзнікла ў выніку чалавечай дзейнасці і ў залежнасці ад менталітэту супольнасці людзей, якім яны служаць. Можна вылучыць некалькі кірункаў дзейнасці гэтага інстытута ў наш час у дачыненні да нацыянальнай культуры.

**Культуравытворчы.** Калі праз СМІ ідзе стымуляванне стварэння культурных каштоўнасцей. Напрыклад, праз артыкулы вырашаюцца некаторыя праблемы, якія стрымліваюць развіццё іншых сістэм (вытворчасць каштоўнасцей у эканамічнай ці ў мастацкай сферы і інш.). Альбо наогул тое, што ствараецца журналістамі, можа быць асэнсавана як культурная з'ява.

**Культуразахоўванне.** Роля СМІ па захаванні культуры рэалізуецца адразу ў некалькіх кірунках: калі журналісты дапамагаюць вырашаць праблемы існавання іншых культурных з'яў, форм і артэфактаў і калі іх дзейнасць накіраваная на гуманізацыю (падтрымку чалавека) наогул. СМІ падтрымку арганізоўваюць працэс назапашвання культурных каштоўнасцей (часам нават асэнсоўваючы нешта як каштоўнасць, надаюць яму ўвагу і правакуюць клопат), а таксама сацыяльна-культурных норм (замацоўваючы іх у свядомасці людзей), забяспечваюць гэтым іх захоўванне. Але захоўванне культуры праз сродкі масавай інфармацыі можа быць і абсалютна літаральным: яны могуць выконваць ролю культурнага архіва, калі змяшчаюць творы літаратуры ці наогул з'яўляюцца ўвасабленнем моўнай культуры народа (напрыклад, беларускамоўныя газеты і часопісы).

**Трансляцыя культуры.** Праз рэгуляванне сродкамі масавай інфармацыі працэсу пазнання і асветы можна скіроўваць увагу людзей на пэўныя з'явы, якія найбольш важна зразумець у цяперашнім часе (адпаведна, засвойваць нейкія ідэі, рабіць высновы з гістарычных падзей), пазнаваць свет і сваю краіну ў яе традыцыях і сучасных тэндэнцыях, каб разумець працэсы, якія адбываюцца навокал. Перадаваць веды, культурны досвед прадстаўнікам іншых пакаленняў, прычым не толькі апасродкавана, але і наўпрост (напрыклад, распавядаючы аб праявах традыцыйнай культуры кшталту абрадаў, рэцэптаў, фальклору ці праз друкаванне твораў літаратуры і г.д.).

**Культураарганізуючы.** Журналісцкая дзейнасць пры асвятленні працы іншых інстытутаў (і ўстаноў) культуры дазваляе ўдасканаліць іх працу альбо, пры аналізе стану самой галіны культуры, якія забяспечваюць дзяржавай, наладзіць яе найлепшае функцыянаванне. Не гаворачы пра тыя культурныя акцыі (і мерапрыемствы), у арганізацыі якіх СМІ прымаюць удзел ці дапамагаюць арганізавацца людзям у нейкіх справах. Таксама пры ўдзеле сродкаў масавай інфармацыі культурныя мерапрыемствы атрымліваюць сваю аўдыторыю, чым забяспечваецца культурны працэс. Наогул місія СМІ — у комплексным вырашэнні шматлікіх культурных задач адначасова (рэкрэацыйных, даследчых і іншых).

Дзяржава як форма цывілізаванага развіцця, якая бярэ на сябе задачу клопату пра культурныя інтарэсы народа ці нацыі, выкарыстоўваючы ўсе кірункі дзейнасці СМІ, з улікам іх магчымасці ўплываць адразу на вялікую колькасць людзей, адпаведна, рэтранслюе свае ідэі і ажыццяўляе планы ў тым ліку па стварэнні адметнага культурнага поля ў пэўных тэрытарыяльных межах. Адна з задач сродкаў масавай інфармацыі — вызначэнне культурнай і нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці, што актуальна для Беларусі ва ўмовах умацавання дзяржаўнасці. Само паняцце «Рэспубліка Беларусь» і тое, што яно ўмяшчае сёння, фактычна становіцца культурнай з'явай, якая выклікае асаблівыя адносіны да сябе з боку грамадзян. Менавіта яно становіцца аб'яднальным фактарам, дзякуючы якому шматлікія «я» ператвараюцца ў агульнае «мы». Яно не згубіцца ў вялікай прасторы, калі будзе мець свой культурны твар. Свой светапогляд, каштоўнасці (якія могуць быць адрознымі нават у межах больш-менш агульных цывілізацыйных утварэнняў).

Культурны твар краіны ўвасабляюць нацыянальныя СМІ, якія пакуль не губляюць цікавасці з боку насельніцтва. Таму, ствараючы больш шырокую інфармацыйную прастору, наша краіна ўсё ж дбае пра ўласны голас і імкнецца знайсці той медыйны прадукт, праз які можна сябе паказаць і захаваць адначасова. Выстаўка «СМІ ў Беларусі» дзеля гэтага.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Літаральныя перавагі

Можна разважаць пра ролю СМІ ў сучасным грамадстве, але ажыццяўляюць журналісты-асобы. Анатоль Кляшчук, фотамайстар, які шмат гадоў працуе ў газеце «Звязда» (яго здымкі можна бачыць на старонках «ЛіМа») на цырымоніі ўручэння прэмій конкурсу «Залатая Літара» атрымаў персанальную ўзнагароду «За ўклад у развіццё журналістыкі». Але такой узнагародай можна смела адзначаць ці не кожнае з выданняў нашай рэдакцыйна-выдавецкай установы: яны самі ёсць гісторыя беларускай прэсы і сведчанне яе нацыянальнага характару, які праяўляе сябе і ў сучаснасці незалежна ад конкурсаў.

Тым не менш дзеля развіцця прэсы ў Рэспубліцы Беларусь ладзіцца Нацыянальны конкурс друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая Літара», які сёлета стаў дванаццатым па ліку.

Прэтэндаваў на Гран-пры сёлета праект спецыяльнага карэспандэнта газеты «Звязда» Веранікі Канюта «Шлях да Перамогі». Але галоўныя прызы ў намінацыі за «Лепшы творчы праект года рэспубліканскіх, абласных друкаваных СМІ, інфармацыйных агенцтваў» атрымалі Беларускае тэлеграфнае агенцтва і газета «Рэспубліка». Абодва пераможцы прадставілі патрыятычныя працы: «Суверэнная Беларусь: эпоха дасягненняў» (БелТА), «Яны бралі Берлін» (газета «Рэспубліка»).

Сярод пераможцаў і лаўрэатаў — самыя розныя выданні краіны: як буйныя газеты і часопісы, так і рэгіянальная прэса. Часопісы і газетныя праекты Выдавецкага дома «Звязда» сталі лаўрэатамі ў розных намінацыях. Напрыклад, сярод іншых выданняў для дзяцей і юнацтва за перамогу змагаўся часопіс «Бярозка». Часопіс «Алеся» — сярод лаўрэатаў у намінацыі «Лепшыя матэрыялы для вольнага часу». За працу ў маладзёжнай тэматыцы дыпломам адзначаны маладзёжны дадатак да газеты «Звязда» — «Чырвонка. Чырвоная змена». За перамогу змагаўся і стаў лаўрэатам конкурсу сярод адмысловых інтэрнэт-праектаў «Электронная карта "Культурна-гістарычная спадчына Беларусі"» Выдавецкага дома «Звязда».

Ёсць і перамога. Газета «Звязда» атрымала «Залатую Літару» за «Лепшыя матэрыялы па тэматыцы спорту і здаровага ладу жыцця» (праекты «Алімпіец» і «Спорт-тайм» спецыяльнага карэспандэнта Дар'і Лабажэвіч). Так што да прафесійных спаборніцтваў нацыянальная газета і літаратурна-мастацкія выданні гатовыя. Ужо перамаглі ў галоўным: кожнае выданне спрыяла ўтварэнню нацыянальнай культурнай прасторы.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Парад выдатнікаў




**Выдатна.** «Маладосць» паспяхова супрацьстаіць вясновай апатыі. Чацвёрты нумар, лічы, — парад выдатнікаў. У гэтую рубрыку без авансаў ці зніжак можна ўключыць вершы Аляксея Арцёмава, паэму Глеба Ганчарова «Анёл Януш», урывак з сямейнай сагі Паўла Касцюкевіча «План Бабарозы», баладу Фелікса Баторына «Саламонаў суд». Пераходзячы на новы фармат агляду, нельга было пазбегчы сумневу: а ці заўсёды знойдзецца публікацыя, вартая «дзясяткі»?.. А ў выніку ты апынаешся ў сітуацыі, калі немагчыма вылучыць аднаго аўтара. Хіба толькі двух — Арцёмава і Ганчарова, якія супакоілі аматараў паэзіі: сучаснасць яшчэ мае што сказаць!

**Сумніўна.** Араторыя «Шлях»… Гучыць моцна. Дый імя аўтара, Міхася Башлакова, добра знаёмае чытачу. Магчыма, якраз таму, што адпачатку чакаеш шмат, прыходзіць расчараванне. Урывак з араторыі выглядае цьмяна: некалькі вершаў зліваюцца ў адное і не пакідаюць асаблівага ўражання. Толькі і бачны аўтар, які на ўлонні прыроды аддаецца настальгіі. І шлях гэты бясконцы і закальцаваны.

**На суд чытача.** Што мае большае значэнне: форма ці змест? А лепей — ідэя ці мова, высокая думка ці адвостраны, тонкі стыль? У залежнасці ад вашага адказу на пытанне аповеды Андрэя Сідарэйкі могуць атрымаць вельмі розныя адзнакі. Пакінуць безважнай прозу маладога рэчыцкага аўтара не дазваляе змест, пастаўленыя пытанні. У двух аповедах — «Жыццё змяняецца, прынцыпы застаюцца» і «11 хвілін волі» — аднолькавы прынцып пабудовы: галоўны герой, не вельмі ўдачлівы (ці, кажучы мякка, сярэднестатыстычны) малады мужчына, наладжвае своеасаблівы дыялог з жывёламі — не як з братамі нашымі меншымі, але як з роўнымі — «проста братамі». Параўнанне адбываецца ненавязліва, і яно дазваляе паставіць наноў пытанні, якія ў іншым кантэксце маглі б выглядаць банальна: працістаянне эгаізму і поўнай адданасці, вернасці; неабходнасць зносінаў, патрэба ў некім блізкім побач; пытанне волі і забяспечанасці, галоднага палёту і залатой клеткі. Аповеды былі б выдатнымі, калі б мова сталася «вастрэйшай», мела разынку. І ўсё ж вырашаць вам, шаноўныя чытачы.

***




**Выдатна,** што паэт Мікола Чарняўскі здзейсніў даўняе абяцанне сваім калегам — і апублікаваў у «Полымі» аповесць-эсэ «І вясною ўзыду», прысвечаную паэту Анатолю Сербантовічу. Знаёмства з Мінскам 1960-х гадоў распачынаецца шпацырам па цэнтральных вуліцах, забудаваных маленькімі дамкамі. На ганку адзінага ў раёне шматпавярховіка — інтэрната БДУ — будучыя студэнты чытаюць вершы, і юнацкае захапленне літаратурай нібы асвятляе твор.

Мікола Чарняўскі мае што ўзгадаць пра таленавітага Анатоля Сербантовіча, таму вобраз паэта атрымаўся яркім і запамінальным. У творы цытуюцца лепшыя вершы маладога творцы. Да таго ж аповесць знаёміць з колішнім літаратурным жыццём, а параўноўваць заўсёды цікава!

**Сумніўна,** што чытачоў «Полымя» захопяць вершы пра каханне, змешчаныя ў паэтычных нізках Іны Фраловай і Анатоля Зэкава. Як можа быць «тайны дзявочы сон», ці магчыма заўважыць на плёсе «цень ад зорак», навошта сустракацца, калі «У межах сустрэчы ўсё недарэчы: / І звыклыя рэчы, і новыя рэчы» (цытаты з вершаў І. Фраловай)?.. Настрой і мелодыка верша — гэта, безумоўна, важна. Але шкада, калі словы не ствараюць адмысловага вобраза ці выклікаюць непаразуменне. Нават звыклыя фразы маюць надзвычайную сілу, калі справа тычыцца кахання, але чытачу, не ахопленаму магіяй пачуцця, цяжкавата заўважыць паэтычнае майстэрства ў радках накшталт: «Пасля цябе наўрад ці / змагу кахаць каго ў жыцці, / бо я такую страціў, / што лепшай болей / не знайсці» (А. Зэкаў). Магчыма, некаторыя радкі лепш прытрымаць не для публікацыі, а для рамантычнага спаткання?

**На суд чытача** прапануе Раіса Дзейкун аповеды-згадкі «І тут жывуць людзі», прысвечаныя жыхарам палескіх вёсак, якія сутыкнуліся з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС. Пісьменніца нагадвае, што «ні пры якіх акалічнасцях не трэба губляць надзеі на лепшае» — і, адпаведна, звяртае ўвагу не на самыя трагічныя эпізоды. У прадмове бракуе ўдакладнення пра тое, што ўсе «згадкі» грунтуюцца на праўдзівых расповедах, але відавочна, што твор — хутчэй дакументалістыка, чым мастацкая прыдумка.

***




Красавіцкі нумар «Нёмана» атрымаўся разнастайным. Акрамя літаратурна-мастацкага складніка, асобна варта адзначыць глыбокія крытычныя і аналітычныя матэрыялы, дасканалыя эсэ, а таксама арыгінальнае даследаванне на перакрыжаванні беларусістыкі, гебраістыкі і амерыканістыкі. Калі ж ацэньваць творы мастацкай літаратуры, атрымаецца даволі цікавы рэйтынг.

**Выдатна:** Анатоль Зэкаў «Алесь». Такой высокай ацэнкі пісьменнік і яго твор заслужылі не дарма, бо тут прыўкрасна ўсё: і жанр, і форма, і змест. Гэткі вельмі асабісты нон-фікшн, напісаны ў выглядзе ці то інтымнага дзённіка, ці то дарожных нататак, ці то настальгічных мемуараў. На першы погляд, галоўны герой твора — Алесь Пісьмянкоў, пра якога нам так шчыра, з цеплынёй распавядае Анатоль Зэкаў. Але ж не менш яркая і асоба апавядальніка, бо ён таксама раскрываецца як чалавек вельмі чулы, уважлівы, часам іранічны.

**Сумніўна:** паэзія. Такімі падаліся амаль усе паэтычныя творы ў гэтым нумары «Нёмана». І тут пытанне хучэй не да саміх паэтаў, а да перакладчыкаў, якія перастваралі вершаваныя радкі з беларускай мовы на рускую. Зразумела, што пераклад, у прынцыпе, справа складаная, а перакладаць паэзію — цяжэй удвая. Калі б больш увагі да слова, мастацкі пераклад, падаецца, атрымаўся б і дакладным, і вытанчаным. Што да арыгінальнай паэзіі, то хацелася б адзначыць творчасць Алены Кошкінай. Тонкая лірыка ў лепшых традыцыях паэзіі Сярэбранага веку. Выкшталцона, прыгожа, з кропелькай трагізму і смутку.

**На суд чытача:** Алесь Бадак «Інструкцыя па спакушэнні замужніх жанчын». Вельмі правакацыйная назва, безумоўна, прываблівае ўвагу, але цікавая ў гэтым творы не толькі яна. Аўтар выкарыстоўвае даволі незвычайны прыём — спалучае літаратуру і журналістыку, апавяданне і інтэрв'ю. Літаральна за некалькі старонак мы праходзім шлях ад экспазіцыі да развязкі, не прамінуўшы вострых момантаў кульмінацыі. Бяспройгрышная кальцавая кампазіцыя, разрыў асобных літаратурных канонаў, лірычныя адступленні і рэфлексіі галоўнага героя. Ці атрымалася ў Алеся Бадака з гэтага ўсяго ствараць цікавы твор? Чытайце!

# Калі не трэба азначэнняў

Дзіўная рэч — Аляксей Арцёмаў у сваіх новых вершах, якія можна прачытаць у красавіцкай **«Маладосці»**, пачаў нагадваць Людмілу Рублеўскую. Спачатку адганяеш гэтае ўражанне як памылковае, потым з ім прымiраешся, потым пачынаеш шукаць прычыну. Відавочнай пераемнасці ў іх няма. У сэнсе — непрыхавана-свядомай з боку маладога паэта.

Здаецца, справа ўся ў звароце да антычнасці ці да яе стылізацыі, да рамантызму, які заўважны не толькі ў вобразах (стары самотны дож; зварот да старажытных боствў як да сучаснікаў, нечага існага тут і цяпер), але і інтанацыі. Тут ёсць нюансы. У Людмілы Рублеўскай інтанацыя заўсёды ўзнёслая, у той час як іронія хаваецца ў змесце, асобных тропах, самавызначэнні героя ды інш. У Аляксея Арцёмава і самая ўзнёсласць — іранічная. Наўрад ці гэта свядомае творчае рашэнне, постмадэрністы праклён, а цяпер ужо й штамп (згадайце сеціўны жарт: «Пажамыце, чалавеку банальна!» — «Спакойна, я постмадэрніст, іранічна абыграем!»). Нязменная, паўсюдная іронія Арцёмава не такая відавочная — гэта па-першае. Яна такая сабе ціхая-ціхая, як той светлы сум. А па-другое, да яе аўтар не імкнецца свядома, каб пацешыць ці зававіць чытача. Гэта сродак не звар'яцець, не заплакаць (як і сам ён кажа ў адным з вершаў), не згубіць годнасць, раскрываючыся з усім болем ды сумневам перад чытачом. Не патрэба ў руйнаванні старых каштоўнасцей і банальнасцей, але патрэба ў захаванні самога сябе робіць гэтага рамантыка іранічным. І яшчэ больш кранальным.

Да ўсяго, гэтая адмысловая, непараўнальная інтанацыя дапамагае ператварыць бытавы сюжэт у нешта выключнае, зрабіць з шараговага фотаздымка эцюд Дэга. Такія ж мяккія лініі, такія ж ціхмяна-настальгічныя фарбы — і цікавы ракурс. Аўтар сустракае курортніка, якому не хапае на піва. На піва яны не назбіралі, пайшлі на квас. Стаяць, п'юць. І што такога? Як з гэтага зрабіць твор мастацтва? Вядома ж, справа ў бачанні. Сам выпадак — толькі знешняя праява думкі, якая вярэдзіць даўно і выслізгвае між слоў ці не ў кожным вершы Арцёмава: жыццё такое хуткаплыннае, і кожны момант ёсць — і няма, не ўхапіць, не стрымаць, не сабраць у жменю. Такая сабе «антыпагоня» Багдановіча.

Пры такім светаадчуванні — на мяжы апакаліптычнага, увогуле на мяжы — аптымістам быць наўрад ці магчыма. Пачуццё гумару яшчэ ратуе аўтара ад поўнага дэкадансу, але і быць вечна п'яным закаханым маладзёнам паэт ужо не можа. Можна толькі сядзець на самоце з бутэлькай чаго-небудзь і думаць пра няспраўджанае каханне, пацяху пакепліваючы з сябе і чытача, які расчуліцца над гэтымі радкамі.

Каханне шчаслівым не бывае — лічы, аксіёма. І самоты не пазбавіцца — яна становіцца тваім адвечным спадарожнікам у той самы момант, калі яе заўважаеш. Светлыя толькі мары і ўспаміны. І верш «Памяці Стральцова», звернуты ў дзяцінства (і ў той жа час далёка наперад, аж но да самай мяжы жыцця), — дасканалы. Ужо ён адзін надзяляе верай у светлую будучыню белліту.

Пры ўсім тым нельга закрыць вочы на тэхнічны бок верша. Не таму, што ён кульгае. Якраз наадварот. Нават крыху няёкавата робіцца ад таго, што не спатыкаешся аб вышчарбіну ў рытміцы, не чапляешся за выпнутую рыфму. Харошая тэхніка — нябачная тэхніка. Не заўважаеш аўтарскіх высілкаў — толькі твор, толькі мастацтва, ад якога проста па-чалавечы хораша, без усякіх там азначэнняў з «-ізмамі». Калі на іх забываешся — гэта і ёсць трыумф паэтычнага слова.

**Наста ГРЫШЧУК**

# У дамскую сумачку

Яўген Хвалей — аўтар знакамітай аповесці «Прынцэса з тусоўкі» — на доўгі час залічаны ў шэраг лепшых беларускіх пісьменнікаў для падлеткаў. І вось у красавіцкім нумары **«Полымя»** змешчаны часопісны варыянт новай аповесці Яўгена Іванавіча памерам 45 старонак. Інтрыгоўна! Але назва «Не пакідай мяне, Аля...» папярэджвае: чытача чакае сентыментальная гісторыя кахання (неабавязкова падлетка!).

Пра развіццё сюжэта можна здагадацца з першых старонак. Падчас адкрытай лекцыі кандыдата эканамічных навук, дацэнта Яна Забярэжнага выкладчыца каледжа пазнае ў прамоўцы сваё студэнцкае каханне. За тры дзесяцігоддзі пачуццё не згасла — пачынаюцца ўспаміны, узрушаныя размовы, кветкі... Да гэтага дадаецца крыху асабістых непрыемнасцей, міжземнаморскай экзотыкі і родных краявідаў: большасць радасных сустрэч адбываецца ў ціхай вёсачцы Чуі. Яўген Хвалей нагадвае ўсім, як важна быць добразычлівымі, закаханымі і шчаслівымі, што магчыма не толькі ў спякотнай Пальма-дэ-Маёрцы, але і на радзіме. Праўда, абірае для гэтага, як падаецца, надта простую форму. «Не пакідай мяне, Аля...» — твор, які не ўсцешыць арыгінальнасцю: мінімум псіхалагізму, мілыя героі, прадказальныя лёсы...

Разам з тым, кожны можа згадаць знаёмую паштарку ці праваднiцу, якая выдатна разумее беларускую мову і з задавальненнем возьмецца за кнігу, каб некалькі гадзін правесці побач са шчаслівай закаханай гераіняй. Як сведчаць беларускія літаратурнамастацкія выданні, у нашай літаратуры рэгулярна з'яўляюцца творы, якія маглі б зацікавіць непатрабавальнага, шырокага чытача. Але ці знаходзяць яны шлях да мэтавай аўдыторыі? Найверагодна пад рукой у магчымай чытачкі апынаецца дамскі раман, падпісаны замежным прозвішчам, альбо выданне папулярнага расійскага аўтара.

Як паспрыяць, каб аповесць Яўгена Хвалея заняла сваё месца ў жаночай сумачцы? Па-першае, сарыентаваць чытачоў у шырокім моры сучаснай беларускай літаратуры. Па-другое, аб'яднаць аўдыторыю і зрабіць так, каб чытанне беларускай кнігі было прывабным, па-трэцяе, «вывесці з ценю» аўтара і абраць удалы ракурс для знаёмства чытачоў з пісьменнікам.

У гэтай справе добра было б аб'яднаць намаганні розных удзельнікаў літаратурнага працэсу, але... Маштабныя кампаніі па далучэнні да кнігі праводзяцца з разлікам на дзяцей і падлеткаў. Дарослыя ж чытачы пакінутыя на волю лёсу. На жаль, цяжка паверыць у поспех аповесці Яўгена Хвалея, хаця немудрагелістая рамантычная проза была б кабетам да душы. Ды яшчэ мае прыемны бонус, бо напісаная па-беларуску і пра Беларусь. Магчыма, аўтар, супрацоўнікі выдавецтваў ці Саюза пісьменнікаў Беларусі, ужо прызапасілі некалькі крэатыўных ідэй, каб выправіць сітуацыю?..

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Вершы з зорнага каўша

**Каля чатырохсот вершаў двух апошніх дзесяцігоддзяў уключае новы паэтычны зборнік Мар'яна Дуксы «Птушка вечнасці — душа» («Чатыры чвэрці», 2015 год).**




Паэт жыве ў Солах Смаргонскага раёна, удалечыні ад сталічнай мітусні. Напэўна, гэта яго добраахвотны выбар — адзінота і адасобленасць, што, аднак, не замінае заставацца ў добрай творчай форме. Мар'ян Дукса — аўтар запатрабаваны, яго паэтычныя падборкі рэгулярна з'яўляюцца ў літаратурных часопісах «Полымя», «Маладосць», на беларускіх паэтычных сайтах. У 2012 годзе часопіс «Нёман» апублікаваў пераклады вершаў Мар'яна Дуксы на рускую мову (перакладчык Георгій Кісялёў). Не забываюць пра яго і літаратуразнаўцы (Ганна Серэхан, Лілія Букліс).

Паэт адмовіўся ад падзелу кнігі на традыцыйныя раздзелы. Можа, гэта і добра: чытач самастойны ў выбары, не мае патрэбы ў аўтарскім суправаджэнні, сам вырашае, з чаго пачаць чытаць. Асабіста мне не хапіла ўступнага слова літаратуразнаўцы.

Творчасць М. Дуксы даўно «вызначылася», у тым сэнсе, што паэт мае свой адметны голас, адмысловы малюнак верша. Гэтаму аўтару ўласцівы пранікнёны гуманізм, павышаная патрабавальнасць да сябе, строгасць і адказнасць у слове. Назва кнігі «Птушка вечнасці — душа» адлюстроўвае яе напаўненне, духоўнае і душэўнае.

Звернемся да ключавога, на мой погляд, твора, назву якому даў першы радок:

*Можа, з зорнага каўша*
*выпадкова заляцела*
*у збянтэжанае цела*
*птушка вечнасці —*
*душа…*

Дух свабоды не дае спакою паэту, у сваіх роздумах ён увесь вяртаецца да галоўнай тэмы.

*Лёгка, нібы мімаходзь,*
*для прыгоды ці забавы*
*увайшла у нашы*
*справы,*
*азарыўшы небам*
*плоць.*

Мы шукаем і знаходзім сябе сапраўдных, адухоўленых. Пераадольваючы сябе саміх, вяртаемся да існага. І ў гэтай штодзённай працы дапамагае нястомная працаўніца — душа. Без яе ўдзелу чалавек застаецца ў цемры, абставіны робяць яго абыякавым і знясіленым:

*Кроплю скінула цяпла*
*у пахмурны дзень балесны.*
*Шчодрая, агонь нябесны*
*сэрцу цёмнаму дала.*

Сэрца паэта раней за іншых адгукаецца на новае, заўважае, як змяняецца час, а з ім і людзі, турбуецца, што «не модным» становіцца жыць з адкрытым сэрцам, суперажываць, браць чужы боль.

Нядзіўна, што кнігу адкрывае верш «Паэзія», дзе аўтар сцвярджаецца, задаючыся няпростымі пытаннямі. Размова ў форме маналогу — улюбёны прыём М. Дуксы, які дазваляе выказаць сумнеў, удумліва сузіраць свет і сябе, падвесці жыццёвыя вынікі.

*Агонь твой не, не дагарыць,*
*яшчэ пасвеціць зыркай зоркаю.*
*Ты праўду будзеш гаварыць —*
*салодкую ці вельмі горкую.*

Адметна, што пры ўсёй рэфлексійнасці радкі застаюцца праўдзіва-ўпэўненымі:

*Паэзія, блукаеш дзе ж?*
*То мкнеш у забыццё, то вернешся.*
*Паэзія, не прападзеш,*
*ад нас нікуды ты не дзенешся.*

Марнасць свету паглынае не ўсіх: ёсць вечныя, трывалыя катэгорыі. Паэты былі і будуць, яны застануцца вернымі духоўным каштоўнасцям: «Ты на радок ніжы сваю трывогу, смакуючы уцехі мройнай яблык» («Яшчэ адну сваю напішаш кнігу»).

Паэт жыве ў сваім часе і прасторы, ён адзін сабе суддзя і ў вершах гранічна шчыры, натуральны. Мы чуем яго расчараванне сучаснасцю, яго абыякавасць і холад у дачыненні людзей: «Слоў колішніх шалёны час не чуе»; «А попел слоў ляжыць на ўсіх паліцах, / хоць нешта крэмзае ізноў аловак. / І не адно тут прозвішча пыліцца, / зусім пабляк вялікі загаловак» («А попел слоў ляжыць на ўсіх паліцах»).

І ўсё ж ён дае парады «Суайчыннікам» з надзеяй, што пачуюць. У вершы пераважна павышаная тэмпература, паэт знаходзіць патрэбныя словы, у якіх адчувальны агонь, жар неабыякавасці.

*Сярод сырой імжы,*
*паміж лясоў і рэчак*
*вы з радасцю ў душы,*
*раздзьмухвайце агеньчык.*

Так мала неабходна чалавеку — «крышку жару». Тут бачнае супастаўленне цэлага і частак: так, з маленькіх, не згаслых яшчэ вугельчыкаў падтрымліваецца агульны агонь. «Каб быў ён, ясны, — свой! / Каб ім з людзьмі дзяліцца, / каб сумнай галавой / было дзе прытуліцца!».

Ці павінен паэт заставацца актыўным, падладжваецца пад новы час, калі, быць можа, час збіраць камяні? «Збіраю, збіраю камені, / параскіданыя мной. / Я думаў, я думаў: іх меней — / на нейкай дарозе адной». Або нагадваць пра сябе, калі забыліся? А можа, доля ў яго такая — сысці на ўзбочыну, саступіць месца іншым, актыўным, маладым, каб сцвердзіліся ў сваіх радасных сілах?

У вершах Мар'яна Дуксы няма чорнага адчаю, як няма і безнадзейнага чакання. Так, ці не ў кожным паэтычным радку ёсць адзінота і смутак, але і смутак светлы, адухоўлены; з яго, як з цёмных і змрочных хмар, выглядае сонечнае свята.

У кнізе шмат вершаў, працятых непакоем за родную мову. Паэт хвалюецца: што ж застанецца ў спадчыну будучым пакаленням?

*Наперадзе ў яго — дарога,*
*ці ён ля фінішу свайго?*
*Залежыць ён ад Слова Бога,*
*ад Слова, можа, аднаго…*

(«Звініць, віруе наша мова»)

Мар'ян Дукса шчыра верыць у сілу Божага слова, Божага дару; яму блізкія рэлігійна-духоўныя каштоўнасці, ён скіраваны да ўнутранай размовы са Усявышнім.

*Адолеўшы ўсе кладкі і масты,*
*адбі паклон усім сваім дарогам.*
*Нутром адчуй: не памыліўся ты,*
*што вельмі рана паяднаўся з Богам.*

(«Як бед цябе засыпле град густы»)

Упэўненасць, адчувальная ў радках, бярэ пачатак з хрысціянскай веры і надзеі; вершы нагадваюць глыбокую і шчырую споведзь.

*Маліцеся за цішыню.*
*Яна адна — душы падмога,*
*яна вядзе душу да Бога*
*і прыўзнімае ў вышыню.*

(«Маліцеся за цішыню»)

*Нас падтрымай нябачнымі дарамі,*
*каб мы маглі адолець цяжкі шлях,*
*каб факел веры, як агніслы сцяг,*
*выратавальна палыхаў над намі.*

(«Наблізіцца да аблічча Бога»)

Традыцыйна паэты звяртаюцца да паэтычнай спадчыны мінулага, згадваючы ўлюбёных паэтаў. Ідзе пераклічка літаратурных эпох і пакаленняў (вершы «Галасы Багушэвіча», «Ларыса Геніюш у Празе», «Памяці Максіма Танка»).

Зададзены лейтматыў — птушка-душа — праходзіць не толькі праз новую кнігу Мар'яна Дуксы, але і праз усю яго творчасць, застаецца ў сэрцы чытача і ў айчыннай літаратуры. Птушка-душа — асаблівы вітальны знак. Душа лунае, замірае, сумуе і чакае вяртання дадому — у нябесныя далі.

**Ірына ШАТЫРОНАК**

*З новага радка*

# Дарослы маніфест юнацтва

**«*La Niña*» — першы зборнік вершаў пачынаючай паэтэсы Алёны Рыбік. Не ведаю, як перакладаецца з іспанскай мовы (яе аўтарка ведае дасканала) *la Niña*, а вось па-французску гэта азначае «маленькая дзяўчынка». Аднак у Алёны свае асацыяцыі, пра якія можна здагадвацца, ведаючы, што яе маму завуць Ніна. А можа, такая назва — даніна пашаны і маці, і свайму дзяцінству адначасова?**




Алёна нарадзілася на Гомельшчыне, у Хойніках. Віхор Чарнобыльскай трагедыі закінуў сям'ю на Астравеччыну, дзе і прайшлі яе дзіцячыя і юнацкія гады.

Шчырыя, кранальныя, часам балюча-шчымлівыя, часам падзіцячы непасрэдныя вершы Алёны Рыбік — як акенца ў той час, дзе кожны з нас пазнаваў жыццё і вучыўся жыць. Напісаныя ва ўзросце ад 14 да 20 гадоў, вершы-спавяданні, вершы-эксперыменты, вершы-самасцвярджэнні сведчаць пра адметны талент, вельмі індывідуальнае ўспрыманне рэчаіснасці.

Большасць тэм твораў пачынаючага аўтара даволі традыцыйныя: першае каханне, першыя захапленні і расчараванні, пошукі свайго шляху, імкненне да самастойнасці. Падобныя вершы ў юнацкія гады пішуць многія. Вось толькі не многім дадзена гэтая адметнасць: знаходзіць такія вобразы і словы, каб трапным радком «упівацца ў сэрца». Алёне Рыбік гэта ўласціва. Як і стапрацэнтная жаноцкасць яе лірыкі з усёй парадаксальнасцю, алагічнасцю высноў, юнацкім максімалізмам і абсалютнай неабароненасцю расчыненай насцеж душы.

*Зацісну слёзапад няпрошаны*
*пад вейкамі ад солі чорнымі.*
*Ты знаеш, гэта ўсё —*
*пошасці.*
*Я знаю, гэта сцежка —*
*торная.*

Вывучаючы свет, людзей і самую сябе, то захапляючыся, то адступаючы перад націскам неразумення і адчужанасці, лірычная гераіня — жанчына, гатовая ў адно імгненне аддаць столькі кахання адзінаму, колькі «іншы не возьме за цэлую вечнасць», — адчайна адстойвае права на памылку і прадбачыць непазбежнасць сваёй адзіноты. Таму няспелая душа ўрэшце гатовая на кампраміс з меркантыльнай сучаснасцю. І толькі паляшуцкія гены сілкуюць кроў энергетыкай неспазнанай і непрадказальнай. Дэфармаваныя сучасным светаўспрыманнем містычныя вобразы пераўвасобіліся ў радкі, якія сталі адлюстраваннем канкрэтных з'яў. І вось нараджаецца верш, дзе

*хворыя хвалі ныраюць*
*у водныя сны*
*і, сумныя, прагнуць якойсьці*
*чароўнай вясны,*
*дзе косы струменяцца*
*ў пальцы*
*халоднай змяёй…*

Змаганне з уласцівай многім паэтам празмернай сентыментальнасцю нарастае па меры таго, як аўтарка развіваецца з дзіцячай абстранай эмацыянальнасцю, уступаючы ў той этап жыцця, калі ўсё, як ёй здаецца, «проста, нават лёгка. І нават кнігі іншыя і песні». У вершаваных радках усё часцей знаходзяць адбітак матывы спазнання ісцін. Тэма самасцвярджэння саступае месца тэме ўдзячнасці. Душэўныя радкі, прысвечаныя маці, кранаюць шчырасцю і непадробнай любоўю.

За малым выняткам, у Алёны Рыбік няма вершаў дакладна грамадзянскай накіраванасці. Яе патрыятычнасць, як і ўся творчасць, вельмі ўласна-асабістая, калі так можна сказаць — прыватная. Хоць грамадзянская пазіцыя яскрава акрэсліваецца асобнымі радкамі. А ў вершах-выключэннях няма напышлівасці і лозунгавай дэмагогіі, таму што пачуцце Радзімы для паэтэсы неразрыўнае з матуляй, мовай, каханым. Усведамленне сябе часцінкай і працягам вялікай лучнасці людзей, аб'яднаных адной зямлёй і адной бядой, змушае балюча ўспрымаць агульныя няшчасці. Як сардэчны боль — верш «Сонца плач», прысвечаны сумным падзеям Чарнобыльскай катастрофы:

*…І адрывісты плач —*
*сонца плач — захліпаецца*
*вецер;*
*Як жа жыць? Што любіць?*
*І чым дыхаць на гэтым*
*на свеце?*
*Хворы дым — над жыццём.*
*Красавік. І зусім па-дзіцячы*
*на аскепках зямлі*
*разам з сонцам раскрышаным*
*плачу.*

Разам з аўтарам гэтай кнігі вершаў запрашаю шаноўных чытачоў у віртуальны экскурс туды, «дзе ластаўкавы май», дзе «раніца сонная, бы кацяня ўслых пазяхае», дзе ўсе мы былі чысцейшымі душой і лепшымі ва ўсіх адносінах. Мо аднаўленая памяць дапаможа стаць і сёння крыху лепшымі, больш шчырымі і спагадлівымі.

**Ала КЛЕМЯНОК**

# «Не пазірай на захад сонца з жалем…»

## Да 70-годдзя з дня нараджэння паэта Васіля Гадулькі

**Як часта бывае, што няўзнак сказанае слова становіцца прароцтвам: фатальна ўладарыць над жыццём, трагічна змяняючы лёс! Тым больш — мастацкае слова, напоўненае мысленчай, творчай, ментальнай энергіяй Паэта. Але, зрэшты, што першаснае: шлях ці асоба? Слова ці творца?**

***

*Свет адмовіў паэту ў каханні.*
*Проста так, без усякіх падстаў.*
*Той пакрыўдзіўся, засумаваў,*
*захварэў і памёр на світанні.*

*Але вершы, якія ён склаў,*
*мар яговых чароўныя здані,*
*летуценні свае, спадзяванні*
*у магілу з сабой не забраў.*

*Нехта іх у сталіцу паслаў.*
*Неўзабаве ў прыгожым выданні*
*яго шчырага сэрца прызнанні*
*цэлы свет з заміраннем чытаў.*
*Свет адмовіў паэту ў каханні,*
*а самога ўсё роўна прызнаў.*

Радкі санета аказаліся для яго аўтара прарочымі да драбніц… Вершы Васіля Гадулькі сталі шырока вядомымі толькі пасля смерці. Выйшлі два зборнікі: «Голас» (Мінск: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Литература и искусство», 2004) і «Па-над сцежкай лёсу» (БЛА «Белавежа»: Беласток, 2016).

### ТРОЙЧЫ ПЕРАРВАНЫ ШЛЯХ

Васіль Уладзіміравіч Гадулька нарадзіўся 17 мая 1946 года ў вёсцы Федзькавічы Жабінкаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Выявіў яшчэ ў школе нешараговыя здольнасці да моў. Скончыўшы сямігодку на «выдатна», паступіў у інстытут замежных моў на самы прэстыжны факультэт — перакладчыцкі. Займаўся вельмі паспяхова.

Але на другім курсе насуперак усім парадам выкладчыкаў перавёўся з дзённага аддзялення на завочнае на педагагічны факультэт. Будучыя перакладчыкі на занятку мусілі добра апранацца, а таксама мусілі збіраць грошы на паездку ў ГДР на практыку, а Васіль такой магчымасці не меў і таму вельмі перажываў.

Некаторы час працаваў у школе, а пасля службы ў войску здаў адразу ўсе экзамены за чацвёрты курс. У апошні год навучання быў вымушаны спыніць вучобу праз інцыдэнт, што сёння (але не ў той час) выглядае бяскрыўдным: праходзячы практыку, Васіль засядзеўся ў рэстаране з грамадзянінам Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, які запрасіў маладога перакладчыка на вячэру ў знак павагі за дасканалае веданне нямецкай мовы.

Пасля Васіль Гадулька аднавіўся на педпатоку інстытута, але неўзабаве зноў перапыніў вучобу — на гэты раз па ўласным жаданні. Атрымаўшы даведку аб няскончанай вышэйшай адукацыі, зноў уладкаваўся на працу ў школе. Васіль трапіў у цяжкія ўмовы: праз мяккі, непрацíўленчы, далікатны характар, няўпэўненасць у сабе не мог дабіцца ад вучняў дысцыпліны. Тым больш, што фізічна яны не адрозніваліся ад невысокага астэнічнага маладога настаўніка альбо выглядалі здаравейшымі за яго. Праводзіў па восем урокаў на дзень — а гэта вымагае вялікага напружання і ад дасведчанага выкладчыка. Да таго ж не было дзе жыць. Глыбока расчараваўшыся ў школьнай працы і сваіх настаўніцкіх здольнасцях, Васіль прымае рашэнне звольніцца са школы. Ідзе працаваць на будоўлю, за чатырнаццаць гадоў працы засвойвае некалькі будаўнічых спецыяльнасцей.



Малюнак Алесі Ісы.

### РАТАВАННЕ ПАЭЗІЯЙ

У гэты час ва ўражлівай душы Васіля адбыўся глыбокі надлом: на вачах пад коламі трактара загінуў брат. Яго смерць ён доўга, балюча перажываў. Да таго ж не склалася асабістае жыццё. Ён цалкам замкнуўся ў сабе.

Вершы пачаў пісаць яшчэ ў школе — па-руску, а прыкладна з 1985 года — па-беларуску. Як згадваў у лісце, «…да беларускай мовы я звярнуўся не таму, што сам я беларус (мільёны з нас даўно ўжо з-за зручнасці адракліся ад роднай мовы), а таму, што палічыў справядлівым стаць на бок слабейшага», — і гэта пры ўсёй мяккасці яго характару.

Надзвычай сціплы, Васіль Гадулька не спрабаваў друкаваць свае вершы, нікому іх не паказваў да 1986 года (толькі зрэдку чытаў у кампаніях) — а тады даверыў цераз бібліятэкарку жабінкаўскаму журналісту, прызнанаму паэту Васілю Сахарчуку. Той адразу ж адчуў паэтычнае слова — у вершах простых і глыбокіх адначасова, адшліфаваных па форме, але нязмушаных і немудрагелістых. Пачаў рэгулярна друкаваць іх у жабінкаўскай раёнцы «Сельская праўда». Сустрэўшыся, Гадулька і Сахарчук адразу ж адчулі сябе братамі па духу, іх сяброўства доўжылася да смерці першага. Васіль Сахарчук «адкрыў» свету паэта Васіля Гадульку: рассылаў вершы ў часопісы, пісаў пра яго, спрабаваў дамовіцца з бібліятэкай часопіса «Маладосць» пра выданне зборніка. Падтрымліваў маральна, выцягваў з дэпрэсіі, змушаў выйсці з замкнёнасці: запрашаў на пасяджэнні ў рэдакцыі, на сумесныя выступленні, настаяў, каб абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў накіравала яго на нараду ў «Іслач» у канцы 1986 года.

Падчас літаратурнай нарады паэзію Васіля Гадулькі высока ацаніў Рыгор Барадулін, а Іван Навуменка, уражаны бездакорным веданнем сціплым правінцыйным паэтам некалькіх замежных моў, прапанаваў яму паступаць на дзённае аддзяленне філфака БДУ, паабяцаўшы сваю падтрымку.

Акрылены гэтай ідэяй, Васіль Гадулька пачаў рыхтавацца да ўступных іспытаў. Працаваў ён тады начным вахцёрам на прахадной сядзібы саўгаса, часу хапала. Але пазней Васіль адмовіўся ад перспектывы стаць студэнтам: старэнькая маці хварэла, патрэбны быў догляд.

У «Іслачы» беларускія літаратары напісалі калектыўны ліст у ЦК партыі аб стане беларускай мовы з мэтай яе абароны. Васіль Гадулька ў ліку іншых паставіў свой подпіс, пасля яго выклікалі для гутаркі (а дакладней, для ідэалагічнага выхавання) у абкам (ізноў згадаем мяккасць характару пісьменніка). Але наўрад ці там удалося яго запалохаць: у архіве паэта захаваўся яго публіцыстычны артыкул «На якой мове мы размаўляем?», які гэта і пацвярджае.

### СВЯТЛО НЯШЧАСНАГА КАХАННЯ

Паездка ў «Іслач» для Васіля Гадулькі была знакавай: ён пазнаёміўся з маладой пачынаючай паэтэсай Галінай Самойла. Паміж імі ўсталявалася шчырая, даверлівая перапіска. Лісты Васіля і — часткова — Галіны захаваліся (яны ўвайшлі ў апошні зборнік Гадулькі), з іх мы падрабязна даведаліся пра тагачаснае жыццё паэта (з канца 1986 да пачатку 1989 года), яго душэўны стан, разуменне творчасці і ролі творцы. Асоба паэта раскрылася. Завочнае сяброўства з Галінай акрыліла яго, дало сілы і, галоўнае, жаданне жыць і змагацца. Без усялякіх прыкрас ён распавядае пра сябе, сваю працу, побыт, спадзяванні і мары. Ці шмат яму трэба было, адзінокаму рамантыку з чулай, ранімай душой, каб закахацца, убачыць роднасную душу ў дзяўчыне, якая проста добра, з разуменнем, павагай і спачуваннем да яго ставілася? «…Часам думаецца з жахам: за што ты так добра адносішся да мяне, як ніхто? Хіба я заслугоўваю такія адносіны?» — пісаў ён у лісце да яе.

Светлы лірызм, хаця і з прысмакам самоты, напаўняе вершы Васіля Гадулькі таго перыяду:

***

*Не пазірай на захад сонца з жалем.*
*Вер: наша радасць нас не абміне.*
*Надыдзе ноч — сваё святло запалім:*
*лучынку, свечку, лямпачку ў акне.*

*І радасць будзе ад таго не меншай,*
*што, можа, хіба толькі праз гады*
*яна да нас загляне на агеньчык —*
*з тым, каб ужо застацца на гады.*

Каханая паэта паведаміла, што не можа адказаць яму ўзаемнасцю, але ў яго лістах да яе — удзячнасць і ні ценю крыўды, расчаравання. Ён працягваў кахаць, але — моўчкі, у сабе. Вось урывак з першага санета вянка «Зорка радасці», прысвечанага Г.С.:

*… «Хто ты? Чым так душу*
*ўсхвалявала?*
*І адкуль тая радасць мая?»*
*Першай кветкай пад спеў ручая,*
*Першым громам вясна мне гукала:*
*«Як адкуль? Гэта ж мара твая*
*Сярод зорак сваю адшукала».*

Ні на што не спадзеючыся для сябе асабіста, Васіль Гадулька пісаў дзяўчыне, на пятнаццаць гадоў маладзейшай за яго (яму на момант перапіскі — 40-41 год, ёй — 25-26): «…Вось я прачытаў твой сапраўды цудоўны верш і нават пазайздросціў табе, у захапленні, як лёгка, натуральна і нібыта без намагання ўкладуца ў цябе радкі ў вершы, і ў кожным — паэзія, а ў цэлым — песня атрымліваецца, не проста верш. Гэта талент. А ў мяне гэтага няма і ніколі не будзе. <…> Я вельмі ўдзячны табе за твае вершы… я і люблю іх, і вучуся на іх спасцігаць таямніцы лірычнага ў паэзіі (!)» Балансуючы на мяжы сваіх магчымасцяў існавання, ён усімі сіламі намагаўся падтрымаць, дапамагчы, быць хоць у нечым карысным той, каго любіў. Вось як ён апісвае свой побыт: «…з работы ўвечары ледзь валачэш ногі… Але і ў мяне часам ёсць перамогі: дацягнуў да чарговай зарплаты — ужо перамога, выкапаў сваю бульбу ў полі — таксама…» Матывы адчаю і змроку ўсё больш адчуваюцца ў яго творчасці:

*…І хоць кажуць, што цвітуць увесну*
*нават карчаваных дрэў камлі, —*
*я ў сваіх нашчадках не ўваскрэсну:*
*кожны з нас — апошні на Зямлі.*

*І хоць вецер гне сухое вецце,*
*і хоць іней срэбрам лёг на скронь, —*
*нельга мне, шкада змахнуць, як смецце,*
*ліст, які сагрэў маю далонь.*

### САМАГУБСТВА СЛОВАМ

У адным з лістоў Галіне ў прыступе адчаю Васіль Гадулька згадвае словы з перадсмяротнай запіскі Сяргея Палуяна: «…цяпер я вымушаны зусім інакш, чым раней, ставіцца да жыцця — ніякіх ілюзій, мар, спадзяванняў, бо "жыццё ў марах — казка, а на самай справе — гніенне раба…"». У канцы таго ж ліста паэт ізноў паўтарае словы Палуяна. Дарэчы, адзін з вершаў В. Гадулькі называецца «Самагубцы»:

*Уцеклых не ў выратавальны сон,*
*а ў Вечнасць, у якой свае законы,*
*іх возьме Ноч пад зорны парасон*
*і зберажэ ад глуму іх імёны.*

Відаць, у палоне роспачы і вострай душэўнай адзіноты паэт разглядаў магчымасць самавольнага «сыходу», не раз звяртаўся ў думках да адпаведнага сюжэта, але… воля да жыцця перамагала. Ды блізіліся ўсё новыя выпрабаванні. Паралізаваная маці на паўгода прыкавала яго да сябе. Узімку 1992 года Гадулька трапляе ў лякарню з моцным абмаражэннем рук, што прывяло да частковай страты працаздольнасці. Ён быў тады палыводам, і колькасць дзён выхаду на працу зменшылася да мінімуму.

Напрыканцы 1992 года да Гадулькі звярнуліся мясцовыя бібліятэкары з просьбай напісаць аўтабіяграфію. Напісаў ён яе ад трэцяй асобы, трэба думаць, па сціпласці, скончыўшы такім чынам: «…Рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў: зімой 1992 года, у страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, незразуметы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр і пахаваны на могілках в. Федзькавічы Жабінкаўскага раёна».

Прароцтва здзейснілася са спазненнем на паўгода. Пагоршылася здароўе. У ноч на 15 чэрвеня 1993 года Васіль Гадулька памёр. Яго лекі ля ложка засталіся некранутымі.

…Мяне не пакідаюць думкі, сумненні, пытанні: чаму так трагічна склаўся лёс настолькі таленавітага, разумнага, здольнага паэта (акрамя лірыкі, у яго архіве знайшлі два вершы на англійскай і нямецкай мовах, пераклады, байкі)? Хіба віной таму ўсяго мяккасць характару? Але ж мяккасць не тоесная слабасці. У адным з лістоў чытаем: «Адчуваю, што хутка і з гэтай работы мяне звольняць… за тое, што паводжу сябе неспакойна. І тыя, каго абараняю, не заступяцца». Ды і не на карысць слабасці сведчыць тое, што за доўгі час працы на будоўлі не прызвычаіўся да лаянкі. Ці вінаватыя абставіны, у якіх жыў творца?

Калі б існавала магчымасць павярнуць час назад і з пэўнага моманту адлічыць наноў, вярнула б Гадульку ў хвіліну напісання ім біяграфіі ды пераканала б скончыць яе па-іншаму, напрыклад: «…стаў лаўрэатам прэстыжных літаратурных прэмій, шчасліва ажаніўся, выгадаваў дзяцей… Пражыў да глыбокай старасці, выдаў шмат зборнікаў паэзіі і перакладаў».

Ці магло б такое здзейсніцца? Хто каго абірае: творца слова ці слова творцу?

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

## Душа сумуе па душы…

Якое неба выблісне з аблок!..
Нібы кране істоту раптам неруш,
Нібы з душы здымае боль і немач
Яго бясконцай вечнасці куток.
Гляджу на неба ў сцішанай мальбе
Пра лёс дзяцей і роднае краіны,
Пра дараванне за мае правіны,
Якія помню ў стоенай журбе.
Няўжо мне гэта мроілася ў сне:
І шчасце слёз, і боль, і крык мой немы,
І ратаванне, чыстае, як неба,
І светлае, як першы ў полі снег?..

***

На цёплых вуснах слова горкі мёд.
Нібы ў каханні ціхае прызнанне,
Нібы адхланне, споведзь, ратаванне,
Нібыта чысціня крынічных вод.
Яно злятала з вуснаў мацярок,
З далёкіх і пяшчотных калыханак,
Яно ў жыццё прыходзіла, як ранак
І як пачатак думак і дарог,
Яно было апорай і святлом,
Яно было пачаткам і асновай,
Адвечнае на роднай мове слова.
Пакуль яно жыве, і мы жывём.

***

Слухай мяне, калі ласка,
Не адварочвай пагляд,
Я раскажу табе казку
Пра мой заснежаны сад.
Дзе скрозь туман і залевы
Сонечным сполахам зноў
Свецяць мне шчодрыя дрэвы
Столькі пражытых гадоў.
Колькі шляхоў праляцела,
Столькі памылак было…
Толькі заўсёды мігцела
Роднага саду святло.
Мо і таму не купляю
Яблыкі ў тлумных радах,
Бо зноў дзяцінства шукаю
У паўзабытых садах.
Каб у траве пажаўцелай
Яблык дзяцінства знайсці
І узгадаць, што прапела
Некалі птушка ў трысці.

***

Выгукнула птушка, певень пракрычаў,
І ў душу закралася трывога:
Вось ужо, здаецца, знойдзены прычал,
Ды удалеч кліча зноў дарога.
Што душы не спіцца, што
не йдзе спакой
І чаму лагода не трывае?
Памашу аблокам сцішаным рукой
І нягучна песню заспяваю
Пра дзяцей, і ўнукаў, і пра родны край,
Мілую шчымлівую старонку,
Дзе прастор, і неба, і птушыны грай,
Што звініць вясною, малады і звонкі.

***

Мой горад з дзіўных сноў
Дарыў сваё дыханне
І даўніх абразоў
Праз ноч глухую ззянне.
Ён часта гаварыў
Пра славу і пра волю
Праз марыва зары
І сцежку ў чыстым полі.
Ён так мяне любіў.
З такой пяшчотай гушкаў,
І голас мой рабіў
Пявучым, як у птушкі.
Ён у мяне ўрастаў
І адгукаўся болем
Пакуль нарэшце стаў,
Бы ўласны лёс, сабою.

***

Душа сумуе па душы.
Як неабходна ім сумоўе,
Нібы каханне ці здароўе,
Нібы само жаданне жыць.
Як гэта трэба, каб цябе
Мог нехта выслухаць зычліва!..
Так прагне промня сонца ніва,
Так прагне снегу санак бег,
Вясну так мрояць капяжы,
Так б'юць з падземных вод крыніцы…
Душа сумуе па душы,
Каб ціхім шчасцем наталіцца.

***

А музыка бывае цішынёй…
Здаецца, што не вырвецца ні гуку,
Але ў душы гучыць салодкай мукай
Настоены маўклівасцю спакой.
Яна праз момант скрыпкай загучыць
І адзавецца beражна валторнам,
Ды яшчэ доўга гэты космас чорны
У стоеным сусвеце будзе жыць.
Якімі галасамі поўна ціш,
Якія інструменты ў ёй заняты!..
Іх не загнаць за межы і за краты,
І ты ў іх сам звініш, хаця маўчыш.
І так люблю я слухаць гэты міг,
І так яму пяшчотна падпяваю,
Нібы далоні маміны шукаю,
Каб сілу зноў спяваць знаходзіць ў іх.

***

Мастак пакінуў слёзы на халсце,
А мы наіўна думаем, што фарбы.
Яны сусвет пранізваюць, бы фары,
Яны звіняць струной у немаце.
Ад іх сыходзіць людзям чысціня,
Ад іх плывуць спагада і надзея.
І ўласны позірк раптам маладзее
У тлуме і суровым рытме дня.
Нібыта вечнасць пакідае знак,
Нібыта шэпча ціхія малітвы
І разбурае шэрасць звыклых рытмаў,
Бо неруш светлы шле для нас мастак.

***

Былых каханых не бывае.
Няхай праносяцца гады,
Ды сэрца раптам ажывае
Зноў трапятаннем маладым.
І зноў душа пяшчоты хоча,
І разварушаны спакой,
Бо вусны цёплыя, і вочы
Саграюць памяццю жывой,
Бо ўсё ж нічога не знікае
На нашай грэшнае зямлі…
Былых каханых не бывае,
Калі каханыя былі.

***

Я ведаю, што не мая віна,
што слова б'ецца аб сцяну глухую,
што голасу ахрыплага не чуе
зноў тлумны вір і што
маўчыць струна…
Ды веру ўсё ж, пакуль яшчэ баліць
той боль пякучы, бы набат суровы,
у тых, хто не знямеў яшчэ, то слова
праб'ецца праз палын і будзе жыць.



Яўген ЦЕРАХАЎ

***

Дакрануцца хачу да тваіх валасоў
І адчуць іх дзівосны, хвалюючы водар.
Ты чароўная фея з мінулых часоў,
Твае вочы зіхцяць чысцінёй і лагодай.

Ты Надзея мая, зайчык сонечны мой,
Муза твораў і думак натхненне.
Я шукаю сустрэч, дараваных табой,
І тваіх пацалункаў і цёплых каленяў.

Да цябе я прыйду праз спякоту і льды,
Для цябе у пустынях лугі заквітнеюць,
Для цябе пасаджу і лясы, і сады,
Навучуся, як нешта яшчэ не умею.

Я чакаю цябе сярод велічных ліп,
Між магутных дубоў беластволага гаю.
І з'яднацца ва мне ўсіх пачуццяў усклік:
Я кахаю цябе! Я кахаю, кахаю!

***

За цьмянай даллю лошыцкіх алей
Ў цішы празрыстай цуд сустрэць
магчыма.
Глядзяць у неба кветачкі лілей
Наіўнымі і чыстымі вачыма.

Засланы сцежкі мяккаю імглой,
Па дрэвах ручайкай час бруіцца.
Пабуду моўчкі з небам і травой,
Хай ім мая бяссонніца прысніцца.

Твар акуну ў халодную расу,
Прыродзе-Маці нізка пакланюся,
Малітву Богу шчыра узнясу
Аб шчасці нашай роднай Беларусі.

***

Твой кожны позірк — падарунак лёсу,
Ў тваіх вачах прыроды хараство.
Імкнуцца з ласкай сонечныя косы
Скрозь кроны дрэў да вобраза твайго.

З табой праменьчык грае, быццам
мячык,
Табе пра штосьці ціха шэпча вецер…
А я гатовы ўсім нябёсам дзячыць
За тое, што ты ёсць на гэтым свеце.

***

Сцяжынкі сціплай прыгажосці
Бягуць, лятуць па Беларусі.
Па іх, нібыта ў маладосці,
Я зноў і зноў прайсці імкнуся.

За кожным новым паваротам
Нас напаткаюць таямніцы,
Крыжоў касцёльных пазалота
З вадой гаючаю крыніцы.

Нясвіж сустрэне, Нарач, Свіцязь
І Белавежскія дубровы,
І варта проста прыпыніцца
На лузе рознакаляровым.

Сярод бясконцых пакаленняў,
Дзе дрэмлюць продкаў дні былыя,
Нарэшце моўчкі, на каленях,
Спынюся ў Полацкай Сафіі.

## Раманс

Да Вашай рукі нечакана, тактоўна
Ледзь-ледзь дакрануліся вусны мае…
У думках міжволі, амаль што няўлоўна
Вярнуцца хачу да сустрэчы тае.

Далёка ад дома, у звонкім сакавіку
Ваш вобраз прыходзіць у ранішнім сне.
І я зразумеў, што у цэлым сусвеце
За ўсіх даражэй толькі Вы для мяне.

І кожны Ваш крок, кожны позірк і подых
Прымусяць, каб білася сэрца часцей.
І, нібы юнак, прагна клічу нагоды
Сустрэцца з пяшчотаю Вашых вачэй.

…Плывуць-набягаюць пачуцці як хвалі,
Як хвалі шырокай, празрыстай ракі.
Прабачце, я мару, бясконца ўсё мару —
Зноў дакрануцца да Вашай рукі.



Наталля АЗАРАНКА

***

Трывожыць вецер вокны старой хаты,
А дзверы б'юць паклоны да парога…
Жыла ў маленькай хаце баба Каця,
Усё жыццё служыла шчыра Богу!

Жыццё прайшло у радасці й маркоце,
Вяскоўцы паважалі бабу Кацю,
Жыла сярод людзей — ды ў адзіноце:
Не даў ёй Бог ні мужа, ні дзіцяці…

За ўсё жыццё не крыўдзіла нікога,
Насіла праўду-матку за плячыма…
Здароўя ўсім яна прасіла ў Бога,
Малітвамі і ад хвароб лячыла…

Калі ў каго вяселле ці радзіны
Альбо бяда прыходзіла у хату,
Забыўшы пра палітыку краіны,
Звярталіся ўсе з просьбамі да Каці…

Яе псалмы заўжды за сэрца бралі,
А на душы — то радасна, то млосна…
Спявала, вышывала і арала
Ды пражыла амаль што дзевяноста.

Нам дзверы у царкву цяпер адкрыты…
І людзі павярнуліся да Бога,
А каб памерлых памянуць малітвай,
Няма у нашай вёсцы ўжо нікога…

## Аляксандру Бардоўскаму

Як ад Бесядзі адарвацца?
Бо вада яе — ў жылах кроў…
У Бялынкавічы едзе зноў,
Каб над водар вясковых вятроў
Прыгажосцю зачаравацца.
Нарадзіўся мастак у маі…
Лёс і Бесядзь яго хрысцілі!
Ці буслы падарылі крылы?
Мабыць, з росаў узяў ён сілы?
Колькі сэрца натхнення мае!

З нафтатрасы вяртаўся позна,
«Дружба» стала і лёсам, і доляй.
Фарбы браў у квяцістага поля,
Рыфмаваў ён сумленне з раздоллем
Пад мелодыю звонкіх сосен.

Заварожваюць творчыя справы:
Усе песні яго не спеты,
Не напісаны ўсе партрэты,
Поўны вершаў душы канверты —
Роздумы ў залатой аправе!

Хай пачуццяў бруяць завірухі!
Да жыцця дакрануўся вечар.
Як абдымае туга за плечы,
Зноў прызначыць з радзімай стрэчу,
Каб у Бесядзі вымыць рукі…

## Івану Чыгрынаву

Цяпер сцежкі засланы чаборам —
На палетках не родзіцца хлеба:
Пальцы попелам сыпаўся з неба…
Толькі небу было так патрэбна:
Нарадзіўся ў Вялікім Боры.

Яго Светласць Іван Чыгрынаў —
Валадар беларускага слова!
Ганарыўся сваёю размовай…
Узаконіў ён дзіўную мову —
Скарб багаты нашчадкам пакінуў!

Ён жа полымя таленту ярка,
Як цяжар беларускае долі,
Нёс, нібы запавет Куляшова!
Словы-птушкі ляцелі на волю,
Ды і ў слоўніку клаліся шпарка.

Не счарсцвеў у жыццёвай віхуры,
Па жыцці ішоў годна, натхнёна,
Слова роднае ўзняў ён з каленяў.
Для наступных стварыў пакаленняў
Фонд каштоўны народнай культуры…

Наш зямляк — вельмі яркая зорка!
Ён прайшоў усю зямельку пешшу.
Лёс Радзімы — ў раманах і вершах.
Аб складаным жыцці чалавечым
Рэхам плача яго перапёлка…



Васіль ЯКАВЕНКА

# Наперад да мінулага

*Урывак з рамана «Тарнада на Сонцы»*

Грымнула… Неспадзеўкі гахнула так — з грукатам, трэскам ды жалезным скрыгатам, — што скалануўся ўвесь свет, які насіў у сабе чалавек, жывы і мройлівы, дасціпны і, што ўжо тут хаваць, удачлівы не ў меру…

Адно мроі, з якімі ён ішоў па жыцці, абарваліся, абарваўся і шлях, і ўсё гэта азначала калі не канец, то супынак даволі загадкавы. Вытрасеная дарэшты душа адляцела і пачынала сваё нязвычнае блуканне ў бяскрайнім свеце. Тым часам у лужынах крыві, што заставаліся на месцы клятага выбуху, штосьці таксама жыло — не, мадзела.

Выбух адбыўся пад зямлёй, на станцыі метро, і чалавек, якога разам з іншымі пасажырамі выцягнулі з раструшчанага вагона, паднялі ўгору па эскалатары, не мог прыгадаць свайго імя… У памяці, аднак, прамільгнула апошняя сустрэча з фізікам Паўлам Букам, які аклікнуў:

— Спадар Лявон, што вы такі маркотны? Крочыце і мяне не заўважаеце… — паціснуў працягнутую руку Лявона.

— А ведаеш, братка, акалічнасці дапякаюць. Сябры, агонь іх выкуры, вызвалілі мяне ад некаторых грамадскіх абавязкаў, і цяпер няма куды душу падзець. Але гэта байка не для цябе. Выбачай… Гляджу вось і думаю: не дарэмна ты мне зноў сустрэўся. Я ж чакаю, што ты мне больш падрабязна раскажаш пра Святлану Новікаву, якая зацягнула цябе ў нетры кібернетыкі.

— Пра яе — у любы час!

— Малайчына! Сказаць па праўдзе, яе іерархічныя сістэмы — цёмны лес для мяне. Спадзяюся, пасля, як мы з табой памаракуем, надыдзе прасвятленне.

— Іерархічныя сістэмы аб'ядноўваюць усе веды свету.

— Табе лёгка казаць так… Давай хіба выберам час на тым тыдні. Я буду менш заняты, патэлефаную табе…

Развіталіся, і Лявон, накіроўваючыся ў метро, зноў вярнуўся да мройліва-гаркавых думак.

…Няпэўнасць — няхай і часовая — поўніла трывогаю душу. На той сталічнай плошчы, дзе, калі прыгадаць, у раннія гады Лявон Кавяровіч дзівіўся на велічны помнік Сталіну, цяпер, асабліва па рагах вуліц, што прылягалі да станцыі метро, мітусня. Люду — аж стракаціць. Імгненна зляцеліся дзясяткі машын хуткай дапамогі. З падзямелля выносілі на насілках параненых і забітых, тоўпіліся ўстрывожаныя мінакі, некаторыя ў роспачы крычалі, клялі, а каго і за што — падобна, і самі не разумелі. Спехам прабягалі міліцыянты, пажарнікі…

Кавяровіч апынуўся ў бальніцы хуткай дапамогі, і спрактыкаваныя ўрачы вызначылі, што ён у коме — памежным стане са смерцю. Аднак душа захоўвала і ўзвышала імя жывога Кавяровіча. І раптам Лявон адчуў, што ўсё, што выклікала боль, сышло… І ён апынуўся на шырокай і вольнай зямлі, вока рвала зяленіва — гай, заліты аксамітнымі промнямі сонца. Птушкі спяваюць, як у Лявонавым дзяцінстве, калі разам з падлеткамі хадзіў у лес, высокі, густы і дрымотны, прасякнуты тонкімі вясновымі пахамі.

Ён ішоў цяпер па ўтравелай сцяжыне, усцеленай сапрэлай мінулагодняй лістотай, і раптам убачыў тое, што падалося дзівам дзіўным. На падвышаным улонні, як на тэрасе, угору сягала дрэва. Камель магутны, гонкі, не дуб і не вяз... З раскідзістаю зялёнаю кронай. Веццe пагойдвалася пад хвалямі ветру. Дрэва падпірала неба… Пад ім жа сям-там прыпадала да зямлі кустоўе. Ад дрэва — і Лявон гэта адчуў — ішлі нябачныя выпраменьванні мяккага водару і прахалоды. Да паветра прымешваліся пахі мяты, канопляў, крапівы — спадарожніцы маліннiку, — усё гэта было блізкім, родным, знаёмым з дзяцінства, усё гэта лагодзіла і ўздымала душу. Узбоч дрэва, на зялёнай мураўцы, віднелася невялікая хатка жаўтлява-смалістага колеру, пакрытая гонтай, а паабапал уроскід стаялі лаўкі са спінкамі, кшталту канапак. На адной з іх нехта сядзеў.

Чалавек узняў да вачэй бінокль і, напэўна, угледзеўся менавіта ў Лявона. На невысокім століку ляжалі шабета, або партфель, і стрэльба, якія, аднак, кінуліся ў вочы больш выразна, калі падарожнік падышоў бліжэй. Лявон павітаўся. Незнаёмец падхапіўся і ступіў колькі крокаў насустрач. І Лявон прыязна заўсміхаўся, пазнаўшы вяшчуна з нядзельнай тэлеперадачы «Наперад да мінулага!». Звалі яго Антон Галавень. Нярэдка на блакітным экране паказвалі, як ён выходзіць да тэлегледачоў з нейкага завулка або натоўпу, зазвычай у шырокім чорным капелюшы. Галавень заўсёды захапляў слухачоў байкамі пра гісторыю і культуру. У гэты цёплы вясновы дзень быў без плашча. Капялюш ляжаў на канапцы, побач з біноклем.

— Шаноўны, я цябе пазнаў! — усклікнуў Лявон. — Аднаго не разумею: куды гэта я трапіў, ідучы наперад да мінулага, і што ты, мудрэц і вяшчун, тутака робіш?

— Перапрашаю… Перш адкажы мне, панове вандроўнік, хто ты і ці бачыў здалёк вечназялёнае дрэва? Яно ж не для ўсіх адкрываецца…

— А як жа?.. Бачыў! Уразіла, як нішто на зямлі! А я, з Божае ласкі, Лявон Кавяровіч, празаік.

— Чуў, чытаў і прымаю… Па сакрэце скажу: усе, каму адкрываецца Вечназялёнае Дрэва Нацыі, ёсць сапраўдныя грамадзяне і патрыёты Беларусі. Гэтае вячыстае дрэва ўзнялося на лепшых творах мастацкай літаратуры. Бачыш, які ствол! Як паўмільёна гадоў таму, калі дрэвы раслі ўгору да 150 метраў і нават вышэй. Усё, што літаратары стварылі вартага пра народ, яго лёс, гісторыю і культуру, пераплялося, дыхае і жыве. Дарэчы, гэта асноўнае месца маёй працы — я ж захавальнік нацыянальнага скарбу. А ў вольную часіну выходжу на тэлеэкран, дзе…

— Прабач, — Лявон кінуў вокам на дубальтоўку, — а гэтая цацка навошта?.. Хіба такому магутнаму дрэву нешта можа пагражаць?

— Быццам бы не, але, можа, і так. Я ў дазоры… каб бабры, а яны ў раўчуку непадалёк пасяліліся, не паспрабавалі ламаць зубы аб гэткі ствол або дзікія свінні не папсавалі карані. Дубальтоўка ў мяне на ўсялякі выпадак… Ды што мы стаім, у нагах праўды няма. Прысядзем…

Яны селі поплеч, і Лявон, адкінуўшыся на спінку канапкі, паглядзеў угору, дзе аблокі чапляліся за вяршаліну вечназялёнага дрэва. Натхнёна і ў той жа час маркотна ўздыхнуў. На памяць прыходзілі часы і карціны дзяцінства, калі глядзеў на недасягальна высокія дрэвы ў зялёных гаях і дубровах. Прыгадваліся цяпер і самастойна прачытаныя кніжкі, уражанні. Першая была малюпасенькая, у вершах, з яркімі малюнкамі — «Галінка і верабей». А хто напісаў, не памятаў…

— Максім Танк, — падказаў вяшчун.

— Та-ак, — дзівячыся дасведчанасці прыяцеля, пагадзіўся Лявон. — Тым не менш самае моцнае ўражанне ў школьныя гады на мяне зрабілі творы Янкі Маўра «Чалавек ідзе», «У краіне райскай птушкі», «Палескія рабінзоны», — сказаў ён. — Аж распірала ад тых карцін і вобразаў, я ўжо тады прадчуваў, што ёсць недзе дрэва з высокай вяршалінай і што яго ўтвараюць творы беларускіх пісьменнікаў.

— Так-так, прымаю… Вечназялёнае Дрэва Нацыі адкрываецца з любой адлегласці праз дасканалыя творы літаратуры і мастацтва.

— Любата! Аднак ці стаяў за ўсім гэтым Усявышні, які наканаваў мастацкай літаратуры духаўздымальную і нацыястваральную ролю ў грамадстве?.. Пытанне, відаць, рытарычнае, — абвясціў Кавяровіч. — Толькі ж беларуская літаратура выдатна спраўлялася са сваёй роляй, асабліва падчас жыцця і дзейнасці залатой плеяды творцаў — ад Купалы і Коласа да Быкава, а ўсё гэта волаты: Гарэцкі, Маўр, Дубоўка, Бядуля, Лынькоў, Чорны, Танк, Мележ, Куляшоў, Брыль, Шамякін…

Лявон не-не ды і кідаў позірк угору на дрэва; у ягоным голасе пачуваўся гонар за гэтакі хмарачос, віты-перавіты, зялёны, цэльны, велічны. Ён казаў:

— Сапраўдная мастацкая літаратура заўжды дае народу ўсведамленне самога сябе праз творы. Ты, браце, боскую службу нясеш, і тут і там у тэлепраграмах выцягваючы з напаўзабытага адметных дзеячаў беларускай культуры і літаратуры — будзіцеляў, сапраўдных будзіцеляў… Асвятляеш варункі іх жыцця і мастацкую творчасць… Прабач, для цябе гэта не адкрыццё. Літаратура — люстэрка, у якім грамада, увесь народ бачаць сябе і могуць меркаваць пра сябе ў супольнасці ды прымяраць тыя ці іншыя ўборы, карэкціраваць паводзіны. Урэшце — усведамляць сваю лучнасць і моц — моц грамады ў гэтай лучнасці. Я твой аднадумца, і дзякуй табе, што служыш гэтай справе самаадданa і нястомна!

— Рабі пільна — і тут будзе Вільня, — пагадзіўся і тым самым як бы падсумаваў сказанае госцем Антон Галавень.

— Сцеражы, аднак, нашу творчую радасць, каб не трапіла да каго-небудзь у палон!

— Дзякуй на добрым слове, — адказаў вяшчун.

— Відавочна, гэтым дрэвам цікавяцца таксама турысты? — здагадаўся Лявон.

— А як жа! — пацвердзіў ахоўнік і прапагандыст. — Я з імі тут на ўлонні рэй вяду.

Лявон доўжыў з вешчуном гутарку, радуючыся яму, як брату. Зайшлі ў хату, абсталяваную сціпла, але з густам, — у вока кінуліся паліцы кніг. Папілі бярозавага квасу.

— Нядаўна мой шэф прывозіў сюды свайго госця — сябрука з Піцера. Частаваў яго ў гэтым маёнтку. А той дужа захапляўся і вечназялёным дрэвам, і дамком, і наваколлем. Шкадаваў, што не ўзяў з сабою мальберт. Ён мастак і літаратар, кнігі піша, стварае лібрэта для балетаў, яго прозвішча Вячазар. Родам з-пад Оршы. Беларус натурай і характарам… У сяброўскай бяседзе за сталом госць расказваў пра свае першыя крокі ў Ленінградзе, куды патрапіў юнаком. Віктар Вячазар здаваў экзамены ў Ленінградскі інстытут кінематаграфістаў, марыў стаць кінааператарам, ды не прайшоў па конкурсе. Тады пайшоў на будоўлю, стаў электразваршчыкам арматуры. Рухавы, змалку звыклы да працы, здагадлівы. Лёгка чытаў чарцяжы, працаваў як мае быць... Неўзабаве яго паставілі брыгадзірам арматуршчыкаў. Яму было няпоўных 19 гадоў, а падначаленым — па 30 — 40. І вырашылі яны, што будзе ў іх юны брыгадзір хлопчыкам для паслуг. Скінуліся і паслалі яго ў краму па гарэлку. Прынёс. «Усё! — заявіў рашуча. — На гэтым баста!» Ляпнуў бутэльку аб бутэльку — атрымалася лужына са шкляным друзам. У арматуршчыкаў вочы ад здзіўлення на лоб палезлі, маўчаць. А ён ім: «У рабочы час — больш ніякіх выпівак! Тэхнікай бяспекі забаронена».

Што казаць, разумеў хлопец справу. Знайшоў, між іншым, зазнобу — з Іванаўскай вобласці ў Ленінград прыляцела. Баяўся ўпусціць. І прапанаваў ёй сваё сэрца. А яна пытаецца: «Як жыць будзем? Ні кала, ні двара…» Параіла Віктару ў будаўнічы інстытут паступаць, на вячэрняе аддзяленне, каб хлебадайную працу не страціць. Паступіў. Вучобу скончыў перад перабудовай.

— Але, — спытаўся сам у сябе Антон Галавень, — чаму яго ўважліва слухаў мой шэф? А таму, што было ў характары Вячазара штосьці крамянoe, выкаванае жыццёвым досведам, але ў той жа час лагоднае, сціплае, мяккае, што ішло, напэўна, ад вёскі, ад бацькоўскай сям'і, і гэта ўсяляла давер ды надавала вагу кожнаму яго слову. Віктар яшчэ і будаўнічае ўпраўленне ўзначальваў, а калі ў канцы 80-х яно пачало развальвацца, вырашыў выпрабаваць лёс — стварыў уласную будаўнічую кампанію. А тады не столькі грошы ў хаду былі, колькі бартар. За паслугі разлічваліся ніткамі, посудам... Аднойчы прыносіць Вячазар дадому выручку — цэлы заплечнік грошай! — і гаворыць жонцы: «Ты, Галя, адсюль пакуль не бяры сабе — пацерпім, я з рабочымі перш разлічуся». І разлічыўся... Пазней, калі не было чаго есці, прывозіў машынамі бульбу з Беларусі і раздаваў мяшкамі, перш-наперш — сем'ям рабочых з дзецьмі. А яго ўласная сям'я жыла ў інтэрнацкім пакойчыку. І Галіна, седзячы дома з дзіцём, працавала машыністкай — па дамове з нейкай установай... У 1993-м рабочыя асілілі будаўніцтва першага жылога шматкватэрнага дома з поўным адстройваннем. Потым яшчэ два дамы збудавалі. Вячазар атрымаў кватэру, калі сыну было ўжо дзесяць гадоў. — Вяшчун зрабіў паўзу і пацягнуўся да полкі: — Паглядзіце на Вячазаравы творы.

Ён акуратна зняў з паліцы і падаў Кавяровічу два ёмістыя зборнікі: «Сопромат» і «Записки оптимиста» — апавяданні бывалага чалавека, выдрукаваныя на добрай паперы, з каляровымі ілюстрацыямі і фатаграфіямі аўтара на франтыспісе; у другой кнізе асабліва захапляла і вабіла ягонае фота з адкрытай, шырокай, прамяністай усмешкай...

— Стапрацэнтны аптыміст! — весела зазначыў Кавяровіч і, вяртаючы кнігі, ціха дадаў: — А як, братка, асабістае жыццё-быццё ў захавальніка нацыянальнага скарбу? Твая сям'я ў горадзе?

— Так. Жонка — настаўніца. Перабіваемся неяк. Але жыццё ў смак.

Пажадаўшы новаму прыяцелю поспехаў і развітаўшыся, Лявон зноў пакрочыў гаем — наперад да мінулага.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# «Дом траўніка»

**Дыхтоўны будынак з белымі калонамі ў вёсцы Стрэльна Іванаўскага раёна даўно ўжо не Дом культуры: тут працуе «Дом траўніка» — філіял Мотальскага музея народнай творчасці. Унікальны музей народнай медыцыны адзначае 25-годдзе.**

Шматлікія госці сцвярджаюць: наведванне «духмянай экспазіцыі» дае сапраўдны тэрапеўтычны эфект — стома, нервовае напружанне, галаўны боль адпускаюць, як толькі пераступаеш парог. Верагодна, разгадка крыецца ва ўздзеянні багатага букету лекавых зёлак, сабраных у калекцыі. Гаючую аўру «сілкуе» і загадчыца музея Галіна Вайцяшчук, якую называюць галоўнай іванаўскай траўніцай.

— Мама была траўніцай, бабуля, хросная, бацька таксама, — заўважае жанчына. — Я жыла ў гэтым асяродку, бачыла, як ратаваліся ад немачы, дапамагалі людзям. Нашы мясціны здаўна славіцца багаццем лекавых траў, а як іх збіраць і правільна ўжываць, ведалі нашы бабулі. З малітвай і верай у моц прыроднай дапамогі яны здымалі сурокі, крыксу, рожу. Лячыліся толькі народнымі сродкамі, а жылі да 80 — 90 гадоў.

Звесткі пра 30 жанчын і іх лекарскую спадчыну захоўваюць у спецыяльнай картатэцы. Ёсць яшчэ некалькі бабуль, да якіх і цяпер прыязджаюць за дапамогай. Расліны — гэта і прафілактыка, і лячэнне, і рэабілітацыя, пераканана біёлаг з 40-гадовым педагагічным стажам Галіна Вайцяшчук. У мясцовай школе, дзе яна працавала, было 15 сотак зямлі — частку заўсёды адводзілі пад лекавыя расліны.

Першым загадчыкам музея была дырэктар гэтай школы Марыя Ламаносава, якая знайшла аднадумцаў, заручылася падтрымкай раённых улад і кіраўніцтва мясцовай гаспадаркі. Пазней справу прадоўжыла Галіна Іванаўна. Сёння музей перажывае вялікія змены: да юбілею завяршаецца рамонт, пашыраецца экспазіцыя. Сярод навінак — фітабар ды ўтульная гасцёўня з камінам для дэгустацыі лекавых гарбат і страў рэгіянальнай кухні.

— Мы сабралі экспанаты, зрабілі апісанне больш як 100 лекавых раслін, — зазначае суразмоўца. — Падыход навуковы: даём біялагічную характарыстыку, марфалагічнае апісанне — назначэнне, прымяненне. Хочацца закласці калекцыйны ўчастак, каб людзі маглі ў нас і парастак узяць, а не толькі пакаштаваць гарбату ды знайсці неабходны лекавы збор.

Завітваюць замежныя турысты. Колькасць вандроўнікаў узрасла дзякуючы ўключэнню аб'екта ў турыстычны «зялёны маршрут» «Іванаўскае кольца».

Экскурсіі Галіна Вайцяшчук праводзіць сама. Спачатку расказа пра кожную зёлку, а напрыканцы — гісторыя пра тое, як лекавая расліна дапамагла хвораму. Між іншым, большасць з духмяных экспанатаў музея многім знаёмыя. Але ці ведаем мы, як правільна іх прымяняць, калі збіраць і як захоўваць? Гаспадыня «Дома траўніка» шчыра дзеліцца сакрэтамі.

Вас запросяць у «народны пакойчык», дзе прадстаўлены ручнікі, побытавыя рэчы і вырабы мясцовых майстроў. Галіна Іванаўна з любоўю распавядае пра сваю вёску Стрэльна, традыцыі і звычаі.

Як ні прыгадаць радкі Ніла Гілевіча:

*У нас зямля — якую краску,*
*Якую былку ні сарві —*
*Кладзі да сэрца як лякарства*
*І — здаравей, брат, і жыві!*

**Алёна САЦУТА**


Фота Аляксея Ганчука.

*Гаспадыня «Дома траўніка» Галіна Вайцяшчук.*

*Спадчына*

# Ажурныя цуды

## асвоілі юныя майстры на Мсціслаўшчыне

**У цяперашняй моладзі абуджэнне любові да Айчыны пачынаецца з цікавасці да мінулага, родных месцаў, традыцый.**



*Камплект сталовай бялізны «Да велікоднага стала». Работа Святланы Мядзведскай.*

Адно з забытых рамёстваў — вышыўка на прарэжанай тканіне, ці ажурнае шыццё (разнастайныя мярэжкі, «сакаленне», каляровая і белая строчка-паравіўка, «гафт», ці «гафтаванне»). Праўда, у параўнанні з вышываннем па суцэльнай тканіне ажурнае шыццё не атрымала значнага развіцця. Калі ж сустракалася, то пераважна ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі.

Менавіта таму на Мсціслаўшчыне, якая знаходзіцца на самым усходзе Магілёўшчыны, цудам захаваліся рэчы, зробленыя на прарэжанай тканіне, ці на сетцы. Вырабы захапляюць непаўторнасцю.

Такую вышыўку з задавальненнем асвойвалі многія вучні Капачоўскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад — сярэдняя школа. Сярод іх — Вольга Закрэўская, Святлана Мядзведская, Настасся Гараднічая, Алена Жалянкова. Аднак у параўнанні з прабабулінай посцілкай работы дзяўчат больш ажурныя і, канечне, сучасныя.

Старадаўняя вышыўка ў сучаснай інтэрпрэтацыі яшчэ раз нагадвае, што ў наш час важна не толькі захаваць, але і ўдасканальваць традыцыйнае народнае мастацтва, каб не страціць сувязь з мінулым.

**Іна МЯДЗВЕДСКАЯ**



*Кухонны камплект «Падарунак матулі». Работа Алены Жалянковай.*

*Праекты*

# Памяць у простых рэчах

**Больш як 200 прадметаў ваеннага абмундзіравання і амуніцыі з фондаў і ўзораў рэдкай тэхнікі з унікальнай калекцыі Аляксея Цікунова прадстаўлены на выстаўцы «Сляды вайны…» у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.**

Чым далей сыходзяць у гісторыю трагічныя дні вайны, чым менш застаецца ветэранаў, тым больш іх нашчадкі жадаюць даведацца пра падзеі з гісторыі Вялікай Айчыннай. Не толькі з успамінаў і дакументальных фільмаў, а ўвачавідкі адчуць тое, што дапамагала здабываць Перамогу. Часам самая простая рэч ваеннага часу пакідае ў памяці нашых сучаснікаў незабыўны след. Менавіта такія прадметы прадстаўлены ў адмысловым сумесным праекце.

Сярод экспанатаў можна ўбачыць асабістыя рэчы, сувеніры і талісманы, якія пры жыцці ашчадна захоўвалі былыя франтавікі. Экспазіцыя знаёміць з рэдкімі ўзорамі ваеннай формы і амуніцыі байцоў і афіцэраў Чырвонай Арміі і салдат вермахта, прыцягвае ўвагу наведвальнікаў разнастайнымі ўзорамі трафейных матацыклаў, якія выкарыстоўваліся немцамі, і аналагамі тэхнікі, што з'явіліся ў пасляваенны час у Савецкім Саюзе.

Дарэчы, наведвальнікі музея змогуць зрабіць памятныя фотаздымкі ў інтэрактыўных зонах побач з рарытэтнымі матацыкламі. Выстаўка будзе працаваць да 18 ліпеня.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Цікава ведаць*

# У Гродна, да Максіма

Сярод самых каштоўных экспанатаў Музея Максіма Багдановіча — два арыгінальныя зборнікі вершаў "Вянок". Гэта адзінае паэтычнае выданне, выпушчанае пры жыцці паэта.

Тры дзесяцігоддзі таму ў Гродне быў адкрыты Музей Максіма Багдановіча. Заснавалі яго ў доме, дзе жыла сям'я Багдановічаў (вуліца 1 Мая, 10), як літаратурны аддзел Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Максіма Бацькі пераехалі з Мінска ў Гродна праз восем месяцаў пасля нараджэння. Тут сям'я Багдановічаў і пражыла чатыры гады.

Ранейшая экспазіцыя знаёміла з аблічам горада канца XIX стагоддзя праз фотаздымкі і паштоўкі канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Былі прадстаўлены сямейныя фатаграфіі, метрыкі брата Льва і сястры Ніны, якіх хрысцілі ў Гродне, і асабістыя рэчы Максіма.

Другі раздзел быў прысвечаны наведванню Багдановічам Ракуцёўшчыны, дзейнасці газеты «Наша ніва» і выдавецкага таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца», мінскім перыядам жыцця і творчасці паэта, апошнім месяцам жыцця ў Ялце. Былі прадстаўлены работы беларускіх мастакоў, прысвечаныя знакамітаму паэту, афармлены інтэр'ер кабінета-кватэры Багдановічаў.

Потым, у сувязі з пашырэннем плошчы і стварэннем новай экспазіцыі, згодна з рашэннем мясцовых улад 1 студзеня 1995 года, літаратурны аддзел пераўтвораны ў самастойную ўстанову культуры «Музей Максіма Багдановіча». Сярод экспанатаў, якія прыцягваюць асаблівую ўвагу наведвальнікаў, — асабістыя рэчы паэта, інкруставаная шкатулка, якая належала яго маці, арыгінальныя фотаздымкаў сям'і Багдановічаў. Адмыслова прадстаўлены калекцыі скульптур, стрaдрукаваных выданняў, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, музычных прылад, жывапісу, графікі, этнаграфіі, а таксама літаратурная спадчына Міхася Васілька, Аляксея Карпюка, Васіля Быкава і іншых.

**Бажэна СТРОК**

# Будзе вуліца імя Фёдара Смеяновіча

## дзякуючы ініцыятыве землякоў і грамадскасці краіны

**У Пухавіцкі райвыканкам звярнулася група грамадскасці з просьбай назваць адну з вуліц горада Мар'іна Горка імем падпалкоўніка Фёдара Смеяновіча.**

«Звяртаемся з наступным клопатам. Краіна адзначыла 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 2015 г. усе мы святкавалі 70-годдзе Вялікай Перамогі. Актуальнай як ніколі сёння (у сувязі з няпростай сітуацыяй у свеце) з'яўляецца патрэба ў патрыятычна-выхаваўчай рабоце ў грамадстве. І, зразумела, тэма захавання памяці пра Вялікую Айчынную вайну носіць надзвычай актуальны характар. Звяртаемся да Вас з вялікай просьбай — падтрымайце нашу грамадскую ініцыятыву па наданні адной з вуліц горада Мар'іна Горка альбо вёскі Турын імя падпалкоўніка Фёдара Смеяновіча...»

Фёдар Смеяновіч — легендарны воін-дэсантнік, які ў час вайны займаў пасады камандзіра брыгады, камандзіра палка, начальніка штаба брыгады Паветрана-дэсантных войскаў Чырвонай Арміі. Загінуў на Днепры. Удзельнічаў у баях на Малой Зямлі. Адзначаны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі. Сярод іх — ордэн Чырвонага Сцяга.

Нашчадкі Фёдара Смеяновіча (ураджэнец вёскі Турын Пухавіцкага раёна) — паважаныя ў краіне людзі. Гэта — і сын Арнольд Смеяновіч, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, славуты не толькі ў Беларусі, але і ў Еўропе нейрахірург. Нядаўна Прэзідэнт краіны адзначыў яго ордэнам Айчыны III ступені. Сярод прамых нашчадкаў Фёдара Смеяновіча — унукі: генерал-маёр Віктар Крашэўскі, палкоўнік Уладзімір Крашэўскі, кандыдат медыцынскіх навук Віталь Смеяновіч, таленавіты ўрач-стаматолаг Вольга Рунова, праўнучка — мастачка Дана Рунова і іншыя. Наданне адной з вуліц імя Фёдара Смеяновіча — гэта сапраўднае сведчанне памяці нашчадкаў пра нашых гераічных і самаахвярных продкаў.

Зварот да пухавіцкіх улад падпісалі вядомыя ў краіне людзі: старшыня грамадскага аб'яднання «Белая Русь», доктар фізіка-матэматычных навук Аляксандр Радзькоў, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Казакоў, старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па аграрнай палітыцы Уладзіслаў Цыдзік, дырэктар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Уладзімір Андрыевіч, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» паэт Віктар Шніп, галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота.

У Пухавіцкім райвыканкаме пісьмо разгледзелі і вырашылі, што пытанне аб наданні адной з вуліц г. Мар'іна Горка імя Фёдара Смеяновіча будзе разглядацца пры развіцці інфраструктуры горада і стварэнні новых вуліц на тэрыторыі былой ваеннай часці, дзе сёння выдзяляюцца зямельныя ўчасткі для будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў. Мясцовыя ўлады выказалі спадзяванне, што, магчыма, і ў вёсцы Турын грамадскасць разгледзіць пытанне аб наданні адной з вясковых вуліц імя падпалкоўніка Фёдара Смеяновіча.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Падмануць... Напалеона

**Бабруйская крэпасць ахутана мноствам сакрэтаў. Раскрыць некаторыя з іх узяўся Уладзімір Саласюк у кнізе «Таямніца Бабруйскай крэпасці», што летась пабачыла свет у выдавецтве «ЮрСаПрынт».**

Кніга — трэцяя па ліку ў творчай біяграфіі Уладзіміра Саласюка. З гэтым раманам аўтар быў прызнаны адным з лепшых празаікаў Гродзеншчыны і стаў пераможцам абласнога літаратурнага конкурсу рукапісаў імя Цёткі ў намінацыі «Проза».

Твор стаўся вынікам карпатлівай даследчыцкай працы з гістарычнымі выданнямі і артыкуламі, мемуарамі ды ўспамінамі. Раман у многім аўтабіяграфічны: у адной з частак Уладзімір Саласюк фактычна апісвае сваё дзяцінства, якое прайшло ў Бабруйску.

У аснове рамана — легенда пра неверагодныя скарбы, схаваныя ў падзямеллях крэпасці. Іх доўгія гады збіралі на адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага каталіцкія святары Ордэна Іезуітаў, манастыр якога знаходзіўся на тэрыторыі крэпасці.

У кнізе паралельна развіваюцца дзве сюжэтныя лініі. Адна пераносіць чытача ў Бабруйск 1960-х гадоў. Сюды пераязджае хлопчык Міхась з бацькамі — і для яго пачынаецца новае жыццё, поўнае цікавых прыгод. У сваёй кватэры ён знаходзіць незвычайны артэфакт — штык ад стрэльбы напалеонаўскіх часоў. Разам з новымі сябрамі Міхась распачынае пошук скарбу, даследуе крэпасць, адгадвае загадкі...

Другая лінія распавядае пра падзеі, што адбываліся на тым жа месцы, але 150 гадоў назад, падчас вайны з Напалеонам. Малады інжынер-паручнік Яўген Філіповіч прыбывае ў Бабруйск да службы: яму даручана ствараць чарцяжы будучай крэпасці. Наперадзе шмат захапляльных і небяспечных авантур: бітва на баку французскай арміі, першае каханне і... план падману самога Напалеона!

Твор захоплівае з першых старонак. Сюжэт развіваецца хутка, і жаданне атрымаць адказы на шматлікія пытанні не дае адкласці кнігу ўбок. Нягледзячы на багацце гістарычных фактаў, кніга не сумная і не нудная, напісаная жывой, даступнай мовай, таму чытаецца лёгка, на адным дыханні. Не саступаюць зместу і вылатныя ілюстрацыі.




Уладзімір Саласюк здолеў па-мастацку асэнсаваць падзеі далёкага і блізкага мінулага, удала сумясціўшы дакументальныя факты з вымыслам, «схапіць» важныя дэталі тагачаснага побыту, перадаць мясцовы каларыт Бабруйшчыны. І хаця аўтар пазіцыянуе твор як дзіцяча-юнацкі раман, ён, несумненна, будзе цікавы аматарам гісторыі ўсіх узростаў.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

## Млын навін

# Набліжалі Перамогу

Музей гісторыі горада Гомеля запрашае наведвальнікаў паўдзельнічаць у акцыі «"Жывая" кніга памяці», прымеркаванай да Дня Перамогі і Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Кожны жадаючы зможа распавесці пра родных і блізкіх, якія ваявалі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, дапамагалі ў тыле, перажылі жахі акупацыі, выстаялі ў фашысцкім палоне і канцэнтрацыйных лагерах.

Каб прыняць удзел у акцыі, неабходна пакінуць успаміны ў «Кнізе», якая знаходзіцца ў Музеі гісторыі горада Гомеля, ці даслаць свой аповед па пошце або на электронны адрас музея. Пажадана з фотаздымкамі. Матэрыялы будуць уключаны ў «Кнігу памяці» і стануць часткай экспазіцыі, а супрацоўнікі музея падчас экскурсій змогуць распавесці гасцям і жыхарам Гомеля пра ўнёсак герояў расповедаў у Вялікую Перамогу.

* * *

Абласное свята «Я — пякучка Крапіва», прысвечанае 120-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы, адбылося днямі на Уздзеншчыне — малой радзіме класіка.

У святе бралі ўдзел жартоўныя гурты, тэатры гумару і гульні, гумарыстычныя калектывы, гарманісты, аўтары і выканаўцы баек з Вілейскага, Валожынскага, Капыльскага, Любанскага, Мінскага, Старадарожскага, Чэрвеньскага і Уздзенскага раёнаў. Былі запрошаны ганаровыя госці: унукі пісьменніка Алена і Мікалай Атраховічы, сваякі Леанід Махнач, Анатоль Махнач і Вольга Грышчанка, пісьменнікі Васіль Шырко, Уладзімір Ліпскі, Мікола Шабовіч, Анатоль Зэкаў і Дзмітрый Пятровіч, мастак Уладзімір Ткачоў, даследчык літаратурнай творчасці Крапівы Сцяпан Лаўшук.

* * *

Дзяржаўная гісторыка-культурная ўстанова «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль» запрашае на міні-выстаўку «Аповед пра археолага», што прысвечана памяці Уладзіміра Багамольнікава — беларускага вучонага, вялікая частка жыцця якога была звязана з Гомелем і Гомельшчынай. Пасля заканчэння аспірантуры пры Інстытуце гісторыі АН БССР ён вярнуўся выкладчыкам у родную ВНУ — Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт — і стварыў там археалагічны музей.

З 1970-х гадоў Уладзімір Уладзіміравіч даследаваў славянскія курганныя могільнікі на Гомельшчыне. Вынікі пошукаў археолага леглі ў аснову кандыдацкай дысертацыі «Курганы радзімічаў». Даследчык здолеў удакладніць заходнія межы рассялення радзімічаў, істотна ўдакладніў схему іх пахавальнай абраднасці, амаль дакладна ўзнавіў аблічча этнаграфічнага касцюма радзімічаў. Да канца сваіх дзён Багамольнікаў займаўся навуковымі даследаваннямі, якія і дагэтуль не згубілі актуальнасці.

* * *

Старадаўнюю Свята-Траецкую царкву (пабудавана ў 1834 годзе), якая спачатку была галоўным храмам горада, аднаўляюць усім мірам у Мсціслаўлі. У горад завітвае нямала турыстаў з Беларусі ды Расіі. І гэты храм заўсёды выклікае вялікую цікавасць.

Царкву ўжо аднаўлялі — 150 гадоў таму, пасля вялікага пажару. У савецкі час тут знаходзілася будаўнічае вучылішча. Глабальная перастварэння храм не патрабуе. Памяшканні, дзе праводзіліся заняткі, аддадуць пад класы нядзельнай школы. На месцы склада размесцяца алтар. У хуткім часе праваслаўная епархія зоймецца яго афармленнем.

Завяршыць узнаўленне царквы плануецца восенню. Цяпер будаўнікі займаюцца дахам. На чарзе — апрацовачныя работы і ўсталёўка купалаў. У наступнае свята Вялікадня тут загучаць званы.

* * *

Сустрэча-семінар актывістаў руху агратурызму, удзельнікаў ініцыятыў «Валожынскі раён — тэрыторыя крэатыўнай эканомікі» адбылася на Валожыншчыне. Гасцям распавялі пра ўнікальнасць рэгіёна і галоўны рэсурс — Налібоцкую пушчу, пра новыя турыстычныя прадукты. Удзельнікі семінара наведалі экасцежку ландшафтнага заказніка «Налібоцкі», новую ферму па гадоўлі глушцоў і інш. Падвялі вынікі на сядзібе «Налібоцкія Васількі». Яе гаспадар Васіль Шакун доўгія гады працаваў у пушчы. Яго бацька быў аб'ездчыкам лесу пры графе Тышкевічу і пабудаваў тут дом. Менавіта бацькава хата стала сядзібай, куды з задавальненнем прыязджаюць аматары вандровак. Ёсць надзея, што экатурыстычныя маршруты па Налібоцкай пушчы стануць папулярнымі сярод наведвальнікаў Валожыншчыны.

# Маніфест хараства

## ад мастака Стаса Сугінтаса



*«Дзяўчына з вішняй».*

Прыйсці на выстаўку і захакацца з першага погляду — магчыма? Завітаўшы на экспазіцыю прыгажосці «Экспромт» мастака Стаса Сугінтаса, што працуе ў сталічнай арт-галерэі «Мастацтва», адчуваеш, што патрапіў у палон чараўніцтва невераґодных, вытанчаных жаноцкіх твараў. Здаецца, не закахацца ў іх не зможа нават самы жорсткі, патрабавальны крытык.

Стас Сугінтас — мастак з пазіцыяй. Калі малюваць жанчын, то абавязкова прыгожых, з яксным макіяжам, густымі валасамі і вуснамі колеру спелай вішні. Падзяленне на бландзінак альбо брунетак не прызнае, лічыць стэрэатыпам. Мастацкія творы аўтара — абавязкова гімн жанчыне, удзячнасць за велічнасць, смеласць, гонар і каханне, якое яна здольная даць мужчыне і дзецям. Жанчына для мастака — не прадстаўнік слабага полу, а запаветная мара. Твары прыгажунь лялечныя і ў той жа час натхнёныя. Вельмі здзіўляе такая неспалучальная сувязь натуральнага і штучнага. На некаторых партрэтах жанчыны з напаўрасплюшчанымі вейкамі нібы запрашаюць у свет спакусы і салодкага падману. Прадстаўлены і партрэты маленькіх дзяўчынак, вочы якіх вялікія і ўважлівыя. Іх вобразы, быццам стрэлы, праходзяць праз душу. Так моцна чапляе дзіцячая, пяшчотная прыгажосць.

Дэманструюцца і работы, што закранаюць вострыя сацыяльныя праблемы грамадства. Аўтар заклікае гледача асэнсаваць бессэнсоўныя ўчынкі і падзеі. Напрыклад, ён не ражуме разбуральнай «эстэтыкі падзення» і шчыра пра гэта кажа на палатне. Мастак робіць рашучыя пераходы ад нейтральнасці да трагізму, чым сапраўды выклікае жахлівае пачуццё. Гэта арыгінальнасць, эпатажнасць, ці, можа, усё разам? Адказ адзін: творца не любіць іранізаваць, яму даспадобы эмацыянальная адкрытасць і бязмежная адвага.

Палітру колераў Стаса Сугінтаса складана назваць гарманічнай. Светла-шэрыя колеры нечакана пераплятаюцца з адценнямі чырвонага альбо насычана-сіняга. У гэтым і заключаецца мастацкая канцэпцыя аўтара: з немагчымага стварыць маніфест хараства, падмацаваны элементамі арыгінальнасці і філасофскай выразнасцю.

**Вікторыя АСКЕРА**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Праз замочную шчыліну...

### ПРА ЗМЕНУ ЛАКАЦЫЙ І СКЛАДНІКІ ПОСПЕХУ

Менавіта апантаная індывідуальнасць і зачапіла ў ім замежных гледачоў. Яны не разумеюць наш побыт, не пазнаюць маленькіх вулак часоў перабудовы, але карцінамі Губарава захапляюцца. Палотны беларускага майстра ўжо 20 гадоў упрыгожваюць залы прэстыжнай галерэі *«Les Tournesols»* у Францыі, іх ведаюць у Англіі і Германіі, Швейцарыі і ЗША. Ён знайшоў сваю індывідуальнасць і здолеў выказаць яе. Яго пазнаюць. У Еўропе наогул няважна, што ты скончыў, ці ёсць у цябе дыплом, якія ты месцы займаў на конкурсах, што пішаш: задуменных жанчын каля акна ці мора. Трэба проста рабіць гэта па-свойму. Важныя толькі творчая харызма, почырк.

«Доўгі час на радзіме мяне не выстаўлялі. Казалі, маўляў, вось праца Валянціна Губарава, якая рэзка адрозніваецца ад астатніх. Потым я зразумеў, што гэта, наадварот, камплімент», — дзеліцца аўтар.

Героі Губарава былі далёкія ад ударных будаўнікоў камунізму, ідэалізаваных, пафасных змагароў, ды яшчэ і абыграны з гумарам, незвычайна. Яго абвінавачвалі ў недарэчнай іроніі. А ён проста пранікаўся ўвагай да простых людзей, кранальных, шчырых, тых, каго мы бачым кожны дзень на прыпынку, у крамах, паліклініках, дзіцячых садках... Якія і мы самі.

Нягледзячы на калізіі лёсу, Валянцін Губараў заўсёды ўпарта займаўся тым, да чаго ляжала душа. Поспех прыйшоў прыкладна ў 90-я, калі мастака заўважылі ў Еўропе. Адну з яго першых карцін, па іроніі лёсу, на радзіме надрукавалі ў «ЛіМе». Потым і іншыя газеты «расхапалі». Нават пакупнік знайшоўся.

Мастак мог спакойна жыць у Францыі, але Мінск пакідаць не збіраецца. Хоць і родам з Ніжняга Ноўгарада. Прыехаў у Беларусь следам за жонкай. «Я не хачу адлюстроўваць тое, чаго не ведаю. Тыя ж французскія рэаліі. Мастацтва атрымліваецца толькі тады, калі яно шчырае, без натугі. А як пісаць пра радзіму, калі ты далёка ад яе? Адкуль браць натхненне?» — разважае Валянцін Губараў.

### ПРА СЮЖЭТЫ І ЖЫЦЦЁ

Правінцыйныя маленькія кватэркі з дыванамі на сценах і «бабуліным» сервантам, швейныя машынкі, чайнікі з абаранкамі і бутлі з самагонам на сталах, пірамідкі з пуховых падушак, каровы на лузе, патрапаны забор ля сельскай хаткі, мужчыны ў шкарпэтках і жанчыны ў квяцістых сарафанах... Героі Губарава — летуценнікі ў добрым сэнсе. Як і сам майстар. Мастак азіраецца назад і спыняе мінулае: «Атрымліваецца рэтра, таму што я менавіта тое, яшчэ савецкае, жыццё добра ведаю. Калі азірнешся назад, дрэннае забываецца. Застаецца толькі цёплыня на душы».

Ніякіх шумных мегаполісаў і модных гаджэтаў на яго карцінах не знойдзеш. У гэтым іх чароўнасць. Яны выклікаюць настальгію.

Некаторыя палотны як быццам заваленыя рэчамі, дэталямі, але ў цэнтры ўсё роўна чалавек. Той, хто не баіцца быць сабой, — тыпаж мастака. У работах Губарава адгукаецца светаадчуванне, настрой народа, яго невычэрпнае жыццялюбства, энергія. Ён малюе побыт, але прыцягальна, выразна. Наўмысна спрашчаючы формы, ён вылучае характары, стварае сацыяльныя тыпы, самабытныя, розныя, часам нязграбныя, пацешныя, але і рашучыя адначасова.

Сам Валянцін Губараў з ходу зараджае кіпучай энергіяй і шчырасцю. Яго характар — у карцінах. Так і павінна быць. «Можна захапляцца кветкамі, яны прыгожыя і правільныя, але я пішу людзей, якія любяць шашлыкі, жанчын, адпачынак, вяселлі, рыбалку. Мае персанажы дублёры. Любілі, але неўзаемна. Разбегліся, але не скокнулі. Загараюць не на пляжах Сан-Трапэ, а на лецішчах. Носяць вопратку айчыннай вытворчасці, а не з буцікоў. Ніколі не спрабавалі італьянскі сыр і сапраўдны ірландскі віскі. Вось яны мне цікавыя, бо не пакутуюць, а жывуць», — прызнаецца мастак.

### ПРА СІМВАЛІЗМ І НЕДАСКАЗАНАСЦЬ

Аналізуючы назвы карцін Валянціна Губарава, ловіш сябе на думцы, што ў яго дакладна ёсць літаратурны талент ці, як мінімум, публіцыстычнае адчуванне мовы. Разам з выдатным пачуццём гумару гэта стварае грымучую сумесь. Так і атрымліваюцца палотны «Урокі плавання ў чаканні глабальнага пацяплення», «Сціплае абаянне неразвітога сацыялізму» ці «Відавочныя перавагі пункту кругавога агляду». Небанальнасць майстра выяўляецца ва ўсім. Ён лічыць, што менавіта неканкрэтныя, нават парадаксальныя назвы работ прымушаюць гледачоў думаць. Мастак дае ключ да замка, які публіка павінна адкрыць самастойна.



*«Каханне ў невялікім горадзе», 2013 г.*

### ПРА КАРЦІНЫ Ў ГОРАДЗЕ

З яго экспазіцыяй «Жыццё цудоўна», куды ўвайшлі як маляўнічыя палотны, так і арт-аб'екты, ужо можна пазнаёміцца ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў. Гэта першая частка творчай акцыі пад адкрытым небам. Генеральным партнёрам ініцыятывы «Мастак і горад» зноў выступіў банк ВТБ. Ініцыятарамі сталі агенцтва сацыяльнага маркетынгу *GrandBS* і Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта. Да Губарава мінчан і гасцей сталіцы радавалі творы Шагала, Малевіча, Селешчука. Больш за 2 мільёны чалавек пазнаёміліся з сучасным беларускім мастацтвам, якое выйшла з засценкаў галерэй, майстэрняў, фондаў. Дарэчы, у рамках праекта на гэты раз запушчана віртуальная галерэя, якую можна знайсці па адрасе *higminsk.by* і разгледзець усе працы Валянціна Губарава. Усяго іх — каля 35. «Канцэпцыі, якая б аб'ядноўвала ўсе карціны на выстаўцы, няма. Гэта проста зрэз маёй творчасці за некалькі гадоў», — растлумачыў Валянцін Губараў, выказаўшы надзею, што яго творчасць будзе зразумелай, прымусіць кожнага мінака прытармазіць, прабягаючы штодзённую сцежку ад ЦУМа да Камароўкі, ад метро да дому, — і пазнаць сябе.



*«Вяртанне блуднага мужа», 2013 г.*

**Марыя ВОЙЦІК**

# Партрэт як магічны партал

## Калі мастацтва ператвараецца ў шоу?



Аўтар аповесці «Партрэт» Мікалай Гогаль разважаў пра тое, што адбываецца з мастаком, калі ён вышэй за ўсё ставіць грошы. У яго час гэта гучала як папярэджанне. У наша XXI стагоддзе — як канстатацыя: на слыху шмат імёнаў «модных мастакоў», творчы і жыццёвы поспех якіх пацверджаны іх асабістым дабрабытам. Крытэрыі якасці адыходзяць на другі план, таму што на першым — аўтарскі подпіс, які атрымаў канвертацыю. Вакол яго столькі шуму і мітусні, што мастацтва становіцца свайго роду дадаткам, часткай шоу.

Прыкладна такая думка чытаецца ў спектаклі «Партрэт» Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. У бягучым тэатральным сезоне на тэму мастацтва ўжо выказаліся ў Купалаўскім тэатры спектаклем «Арт». Яшчэ адно бачанне мастацкіх праблем у беларускім тэатры ўвасобілі дзякуючы Гогалю.

Аповесць Мікалая Васільевіча перавяла ў сцэнічны варыянт Святлана Навуменка, імкнучыся захаваць яе асноўны сэнс: для творцы ёсць выбар. Актуальнасць твора Гогаля не страчаная ў наш час. Іншая справа — успрыманне містыкі Гогаля ў XXI стагоддзі, калі ўжо нават магі, экстрасенсы і вядзьмаркі спаборнічаюць у адмысловых шоу.

Таму спектакль «Партрэт» на сцэне пачынаецца як шоу (нават з містычным вядучым у чорным) — уступіў у дзеянне рэжысёрскі падыход. Пастаноўшчыкам спектакля пазначаны Аляксандр Гарцуеў. Дарэчы, менавіта ў гэтым тэатры ён пачынаў як рэжысёр са спектакля на тэму мастацтва «Чорны квадрат», які меў поспех у гледача і праіснаваў даволі доўга. Таму дзівіць вяртанне да тэмы, у якой рэжысёр ужо выказваўся (ці гэта сведчанне працы мастацкага кіраўніка Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, які адказны за напаўненне афішы тэатра разнапланавымі пастаноўкамі?).

Пастаноўка глядзіцца як сучаснае шоу, дзе могуць сплятацца розныя нумары, сыходзяцца адначасова людзі і дзіўнаватыя фрыкі, перакрыжоўвацца эпохі. Ці ў магіі паміж імі наогул няма межаў, калі адкрыты партал у нейкі паралельны свет праз таямнічы партрэт? Да такой высновы прыходзіш паводле сцэнаграфічнага рашэння Юрыя Саламонава і вонкавых вобразаў герояў ад мастака па касцюмах Марыны Алекна, дзе месцамі выпірае гісторыя, а месцамі ўключаецца карцінка з сучаснага подыуму ці сцэны. Шоу — варыянт, пры якім наогул усё можа быць і адначасова можа не быць нічога. Але ў спектаклі ўсё ж павінна быць ідэя. Яна ў тым, каб паразважаць, што адбываецца з мастацтвам, калі людзі пачынаюць ставіцца да яго як да шоу.

Галоўны герой Чарткоў — чалавек па-за часам. Як і тое, што яго спакушае. Справа не ў самім партрэце дэманічнага ліхвяра, а ў ідэі, якую пераймае Чарткоў — у сне і наяве. І тады ўсё пачынае круціцца вакол таго, хто яшчэ нядаўна не грэбаваў харчамі з міскі свайго дзяншчыка Мікіты. Вакол яго круцяцца людзі, што замаўляюць партрэты. Вакол яго круцяцца грошы, на якія ён можа жыць у шыкоўных апартаментах і скупляць шэдэўры сусветнага мастацтва. Самое жыццё круціцца вакол яго, усё больш нагадваючы шоу з загадзя закладзенай праграмай, атрыбутамі (вітальныя плакаты, апантаныя фанаты, шыкоўныя дзяўчаты) і фіналам. Фінал любога шоу прадвызначаны: пасля заканчэння героі сыходзяць у нябыт, саступаючы месца новым імёнам.

Акцёр Андрэй Новік увасабляе не проста мастака, які паступова з'язджае зглузду (і гэта робіць пераканаўча). Ён стварае вобраз героя, які праславіўся, але глыбока ў душы разумее, што ганарыцца няма чым. Ці не таму набывае творы высокага мастацтва? Але не дзеля таго, каб захапляцца імі аднаасобна, а каб знішчыць зусім. Каб ніхто не мог зразумець, што ёсць сапраўднае мастацтва, чым яно заварожвае, калі ствараецца без удзелу дэманічных істот.

Калі ёсць дэманы, павінны быць і анёлы (згодна з логікай). Згодна з логікай Гогаля, гэта якраз асобы, чые творы знішчае Чарткоў (нездарма ж у яго гаваркое прозвішча). Але ў шоу акцэнты могуць з лёгкасцю быць зменены, і вось ужо мастак Чарткоў, які так нечакана памёр у росквіце сіл, ператвараецца ў анёла, белага і пухнатага, з крылкамі... І чорнае становіцца белым. Так нам паказваюць (вельмі часта). І так мы бачым (калі гатовыя верыць таму, што паказваюць). Але ці згодныя, што такога варты вось гэты мастак, які аддаецца спакусе і несумленнымі творамі зараджае спакусай дрэннага мастацтва іншых?

Разважаем пра гэта праз галоўную спакусу нашага часу — мастацтва забавы (жанр вызначаны як трагіфарс). Забаўляемся ці не — залежыць ад асабістага густу, у тым ліку мастацкага.

**Ларыса ЦІМОШЫК**



*Фота Марыі Вайцік.*

# «Пра дзяцей, якім не знайшлося месца на зямлі»

Так вызначыла рэжысёр Ірына Цыпіна задуму спектакля «Калі я стану воблакам», пастаўленага ў Гомельскім дзяржаўным тэатры лялек.



Пастаноўкі звязаныя з тэмай Другой сусветнай вайны. Першы спектакль — «Адна абсалютна шчаслівая вёска» — распавядае пра жыццё глыбокай тылавой расійскай глыбінкі, здавалася б, такой далёкай ад вайны. Новы ж спектакль разлічаны на сямейны прагляд бацькоў з дзецьмі, таму што закранае незагойную вострую тэму халакосту — і халакосту менавіта дзяцей. Створаны спектакль зноў у супрацоўніцтве з мастаком Канстанцінам Крыштаповічам, акцёрам Брэсцкага тэатра лялек. Трэба адзначыць працу мастака па святле Яўгена Мількова і вельмі дакладнае музычнае афармленне Алены Кірык. Таму што ў спектаклі персанажы маўчаць — за іх кажуць музыка, святло. Арганічная ансамблевая праца акцёраў: увесь творчы калектыў, які стварыў пастаноўку, — моладзь.

Спектакль пастаўлены па матывах аповесці Януша Корчака «Кароль Мацiуш Першы», упадабанай Ірынай Цыпінай з дзяцінства. Януш Корчак — вядомы польскі педагог яўрэйскага паходжання, пісьменнік, лекар і грамадскі дзеяч, жыў у імя дзяцей. У імя дзяцей і загінуў: 6 жніўня 1942 года ён увайшоў у газавую камеру лагера смерці Трэблінка разам з выхаванцамі свайго «Дома сірот». Рэжысёр аб'яднала ў спектаклі трагічную гісторыю гібелі і аповесць-казку, напісаную Янушам Корчакам задоўга да вайны, яшчэ ў 1923 годзе.

Пасля раптоўнай смерці караля-бацькі на троне аказваецца яго сын — кароль Мацiуш І. Ён яшчэ зусім маленькі, яго так лёгка падмануць! Вераломныя міністры, вядома, спрабуюць скарыстацца гэтым, стварыўшы для караля-дзіцяці бачнасць шчаслівай дзяржавы. Але менавіта ў гэты момант Мацiуш знаёміцца з аднагодкамі Фелекам і Аленкай, жыццё якіх далёка не бясхмарнае. Ён прымае рашэнне стварыць дзяржаву, дзе ўсе дзеці былі б шчаслівыя. Але міністры ладзяць змову з дапамогай Сумнага караля, кіраўніка суседняй дзяржавы, якія абвяшчаюць Мацiушу сапраўдную вайну.

Тое, як рэжысёр паказвае гледачам ход і вынік гэтай вайны, прымушае прыняць умоўнасць страшнага па сваёй сутнасці дзейства. Праз усю дзею спектакля даносіцца гудок: на авансцэне рухаецца паравоз з таварнымі вагонамі, няўмольна набліжаючыся да газавых камер, дзе гінуць людзі, і ў тым ліку дзеці! Журботна гучаць рэальныя імёны і прозвішчы яўрэйскіх дзяцей, якія загінулі ў Трэблінцы ў 1942 годзе.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

*ВыДАТна*

# У квецені мая

## Народжаныя на радасць

Сярод юбіляраў мая сёлета актрыса Гродзенскага абласнога тэатра лялек **Ларыса Мікуліч**. Нарадзілася яна 1 мая на Гродзеншчыне. Закончыла мінскі інстытут культуры. Талент Ларысы Мікуліч яскрава раскрыўся ў пастаноўках Гродзенскага абласнога тэатра лялек, дзе яна працуе з 2000 года. Актрыса лаўрэат Нацыянальнай тэатральнай прэміі як выканаўца лепшай жаночай ролі (у спектаклі Гродзенскага абласнога тэатра лялек «Пікавая дама» ў пастаноўцы рэжысёра Алега Жугжды).

12 мая ў тэатры-студыі кінаакцёра віншавалі заслужанага артыста Беларусі **Анатоля Цярпіцкага**, які 5 мая адзначыў 60-годдзе. Ён скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут і з 1982 года працуе ў тэатры-студыі кінаакцёра. Праца артыста адзначана медалём Францыска Скарыны.

У свой дзень нараджэння **Вялікі тэатр Беларусі** запрашае ў госці. Дзень адкрытых дзвярэй у тэатры пройдзе другі раз. 25 мая а 12-й гадзіне ў фае тэатра збяруцца аматары оперы і балета, якія жадаюць пазнаёміцца з гісторыяй тэатра і яго сучаснасцю, нават той, што схавана ад гледача заслонай.

# Адценні сучаснай Еўропы

## ў кінастужках Фестывалю еўрапейскага кіно

**Традыцыйны для мінскай публікі Фестываль сучаснага еўрапейскага кіно з 17 мая праходзіць у сталічным кінатэатры «Перамога». Гледачы натоўпамі збіраюцца за гадзіну, каб паспець узяць бясплатныя квіткі.**

Штогод фестываль прымеркаваны да Дня Еўропы, але гэта не значыць, што канцэпцыя аднолькавая. Арганізатары адбіраюць фільмы з улікам навізны, якасці і папулярнасці. Сёлета праграма фестывалю больш шырокая, чым у папярэднія гады. Дваццаць дзве кінастужкі: ігравыя, дакументальныя і анімацыйныя. Раней праграму складалі каля 12 — 14 фільмаў. Усе стужкі разнастайныя па жанрах і тэматыцы. Дэманструецца жыццё сучасных еўрапейцаў, іх каштоўнасці, традыцыі і праблемы, што вырашаюцца на тэрыторыі Еўрапейскага саюза. Большасць карцін паказваюць на мове арыгінала з рускімі альбо беларускімі субцітрамі.

Сёння ўвечары мінчане могуць патрапіць на румынскія фільмы — «Дом кахання» (рэжысёр Юлія Ругіна) і «Шчаслівага пахавання» (рэжысёр Хорацыю Малаэле), дзе ў аснове сюжэтаў — развіццё сціплых рамантычных адносін і праблемы на шляху радыкальнага выбару — смерці ці забавы.

У наступныя дні чакаюцца не менш цікавыя і захапляльныя фільмы: 21 мая пакажуць кінакарціну «Рыба-сонца» дацкага рэжысёра Сорэн Бале, які акцэнтуе ўвагу на беднасці як сацыяльнай праблеме, вырашэнне якой залежыць менавіта ад чалавека. Нямецкі трылер «Вікторыя» (рэжысёр Себасцьян Шыпер), што адбудзецца 22 мая, быў зняты з трэцяй спробы адным планам. Ён пераносіць гледача ў абсалютна нетурыстычны Берлін, дзе адразу заўважныя адваротныя бакі стэрэатыпнага ўспрымання ўсмешлівых еўрапейцаў. А 23 мая будзе дэманстравацца пранікнёны фільм «Мае дочкі — каровы» пра хваробу і смерць у адной сям'і польскага рэжысёра Кінгі Дэмбска, якая прадставіць карціну асабіста. Партугальская кінастужка з арыгінальнай назвай «У кошак няма галавакружэння» (рэжысёр Антоніа-Пэдра Васкансэлас) — адна з самых пазітыўных у фестывальнай праграме. Тут размова зусім



Кадр з фільма «У кошак няма галавакружэння».

не пра хатніх жывёл, а пра адносіны пакаленняў. Фільм з нечаканай развязкай прэзентуюць 24 мая. Актуальны дакументальны фільм «Самураі Чарнобыля» эстонскага рэжысёра Івара Хейнмаа пакажуць у наступны дзень. Кінакарціна балючая, асабліва для тых, каму калісьці давялося з'ехаць з роднай зямлі альбо застацца на радзіме і сачыць за жахлівымі наступствамі катастрофы. Памяць пра людзей і знішчаную прыроду фільм адлюстроўвае дакладна. Закрываць фестываль еўрапейскага кіно будзе беларускі анімацыйны фільм «Марк Шагал. Пачатак» рэжысёра Алены Пяткевіч. Прадстаўленая карціна — хроніка жыцця творцы, у якой рэжысёр раскрывае таленавітага мастака з боку яго пачуццёвай душы і паэтычнай натуры.

У межах фестывалю ў кінатэатры «Перамога» адкрылася выстаўка еўрапейскіх фотамастакоў «Еўропа як неруш». Якасныя і гарманічныя фотапейзажы натхняюць як мага хутчэй адправіцца ў падарожжа.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Новы позірк і пераасэнсаванне

## ад маладых кінематаграфістаў

**Маладыя творцы Беларусі актывізаваліся: за асабістыя сродкі ствараюць як кароткаметражнае, так і поўнаметражнае кіно. У красавіку ўпершыню ў Мінску адбыўся фестываль беларускага кіно «Незалежны позірк». Галоўнай мэтай было разбурыць стэрэатыпныя ўяўленні беларусаў пра занядбанасць і ўвогуле адсутнасць айчыннага кінематографа. Задача выканана на сто працэнтаў: гледачы мэтанакіравана прыходзілі на айчынныя фільмы. Пасля заканчэння фестывалю Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь разам з Беларускай дзяржаўнай акадэміяй мастацтваў і Цэнтрам візуальных і выканаўчых мастацтваў «АртКарпарэйшн» вырашылі аб'яднаць сілы і арганізаваць рэспубліканскую мастацкую акцыю «Новы погляд: маладое беларускае кіно».**



Кадр з фільма «Заплюшчы вочы».

Кінаакцыя распачалася 12 мая ў кінатэатры «Цэнтральны». Менавіта з гэтага дня на працягу 2016 года ў дзяржаўных кінатэатрах усёй краіны будуць дэманстравацца мастацкія і дакументальныя фільмы маладых айчынных рэжысёраў, што ўдзельнічалі як у нацыянальных, так і замежных кінаконкурсах. Як аказалася, у Беларусі незалежным кіно займаецца шмат маладых творцаў, якія пакуль малавядомыя беларускаму гледачу. Арганізацыя акцыі «Новы погляд: маладое беларускае кіно» — упэўнены крок наперад для ўзнаўлення імпэту ў развіцці сучаснай кінаіндустрыі.

Першай са стартам рэспубліканскага праекта ўдзельнікаў павіншавала першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Ірына Дрыга:

— Прыйшоў час, калі больш не трэба гаварыць пра будучых рэжысёраў, акцёраў і ўсіх тых, хто стварае беларускае кіно. На мой погляд, гэтыя маладыя людзі — сучаснікі. Усе вакол прывыклі ўспамінаць былы кінематограф і з упэўненасцю казаць, што такога больш не будзе. Але ж дзякуючы рэспубліканскай кінаакцыі «Новы погляд: маладое незалежнае кіно» можна смела адзначыць, што ў айчыннага кінематографа ёсць як прадуктыўнае мінулае, так і сённяшні сонечны дзень і паспяховая будучыня. Як парасткі, прарастаюць беларускія маладыя кінематаграфісты: тыя, якія вучыліся ў Акадэміі мастацтваў, якія супрацоўнічаюць з вядучай кінаарганізацыяй — нацыянальнай кінастудыяй «Беларусьфільм», і тыя, што самастойна робяць крокі ў рэжысуры. Галоўнае — нашы творцы ўсё робяць шчыра, непасрэдна і без фальшы. Назва акцыі «Новы погляд: маладое беларускае кіно» прадугледжвае погляд моладзі на мінулае, сучаснае і будучае. Ад таго, якімі вачыма маладыя ўбачаць жыццё краіны, будзе залежаць сэнс кіно. Упэўнена: маладыя стануць летапісцамі. І вельмі хацелася б, каб яны захапляліся кіно не толькі ў юнацкія гады, а і далей і каб слава пра таленавітых рэжысёраў з беларускіх куткоў дайшла ў іншыя краіны свету.

Маладыя рэжысёры таксама выказаліся падчас адкрыцця. Адзначылі, што важная рэалізацыя творчасці на вялікім экране. Цяпер зацікаўленыя кінамастацтвам людзі могуць не шукаць, на якіх маленькіх пляцоўках ім збірацца дзеля прагляду менавіта беларускага кіно, а рэжысёры атрымаюць магчымасць абмяркоўваць фільмы з гледачамі, прымаць заўвагі і прапановы. Пляцоўкі дзяржаўных кінатэатраў будуць спрыяць дыялагічнасці сучаснай кінаплыні. А адзін з удзельнікаў праекта Іван Маслюкоў (рэжысёр фільма «Фартуна») звярнуўся да прадстаўнікоў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з просьбай дапамагчы ў тэхнічным кірунку. Па словах творцы, многім маладым рэжысёрам складана даецца працэс мантажу на асабістай тэхніцы, а дазволіць сабе абсталяванне, якім карыстаюцца рэжысёры на кінастудыях, яны пакуль не могуць. Іван адзначыў, што для незалежных творцаў матэрыяльная дапамога ад дзяржавы стала б добрай падтрымкай. Толькі працэс мантажу гэта дапамагло б зрабіць больш якасным і прадуктыўным.

Рэспубліканская акцыя «Новы погляд: маладое беларускае кіно» пасля тэарэтычнага прадстаўлення была прадэманстравана з боку практычнага. У кінатэатры «Цэнтральны» паказалі кінаальманах «Адкрытымі вачыма», падрыхтаваны студэнтамі Беларускай акадэміі мастацтваў. У падборку кінаальманаха ўвайшлі пяць кароткаметражных фільмаў: «Канцэрт для мамы» Ягора Бякава, «Гульні са смерцю» Алесі Камяковай, «Кактус» Андрэя Кашперскага, «Закрый вочы» і «Мой брат» Нэлы Васілеўскай. Усе фільмы аб'яднаны адной тэмай — светаўспрыманне дзяцей. Малыя, што толькі пачынаюць сумленна адчуваць наваколле, аказваюцца ў нязвыклых жыццёвых сітуацыях, дзе абставіны падштурхоўваюць сталець у думках і ўчынках. Нягледзячы на тое, што гэта пяць асобных карцін, стылістыка і сэнс іх успрымаюцца як поўны метр. Гледачы, якія ўбачылі кінаальманах, былі ўражаны тонкасцю і гарманічнасцю кароткаметражнага кіно, яго ўпартым акцэнтаваннем на бязмежным каханні маленькіх да бацькоў і шчасцем дарослых ад правільных учынкаў іх дзетак. Усе пяць фільмаў раней бралі ўдзел у кінафестывалях і конкурсах Беларусі, Расіі, Украіны і Ірана.

Напрыканцы мая фільмы, што прадстаўлены ў праграме рэспубліканскай акцыі, убачаць жыхары Гродна, Віцебска і Магілёва. Хутка беларускія фільмы плануецца паказаць у мінскіх рэгіёнах — Маладзечне, Барысаве і Салігорску.

**Вікторыя АСКЕРА**



Кадр з фільма «Гульні са смерцю».

# Аптымістычны расклад,

## альбо Справа аб непаўторнасці гучання гітары

**Малады беларускі гітарыст-віртуоз, лаўрэат шматлікіх конкурсаў, вельмі патрабавальны да сябе музыкант, які не перастае ўдасканальвацца, чалавек, што ўмее ўсё паспяваць, — гэта Павел Кухта. Саліст Белдзяржфілармоніі ніколі не сядзіць без справы. Канцэртная геаграфія ахоплівае гарады Венгрыі і Літвы, Польшчы і Расіі, Італіі і Францыі... Ён ведае, як стаць паспяховым і тут, на радзіме. Быў першым беларускім гітарыстам, які перамог, напрыклад, на такім форуме, як Міжнародны конкурс гітарыстаў імя Мікеле Піталуга ў італьянскім горадзе Алесандрыя. Там пра нас раней увогуле не чулі. Летась прывёз перамогу з Германіі — з творчага спаборніцтва гітарыстаў з усяго свету ў горадзе Хайнсберг. Потым была працяглая хваля выступаў па Еўропе, Азіі, ЗША, запіс сольнага кампакт-дыска. Але ён ніколі не спыняецца на дасягнутым.**



Фота з асабістага архіва Паўла Кухты.

**— Кажуць, складана выжываць у нашай краіне, займаючыся толькі музыкай. Якія ў вас аргументы супраць? Акрамя, зразумела, асабістага прыкладу.**

— Няўжо ў нас так дрэнна, што даводзіцца выжываць?! Усюды ёсць свае складанасці. Так, заробкі ў музыкантаў невысокія, але заўсёды ёсць магчымасць знайсці падпрацоўку, і не адну. Гледзячы, якія мэты ставіць. Не трэба думаць, што на захадзе лёгка ўладкавацца і што там адразу прадастаўляюць высокааплатную працу, пашану, славу, павагу. Усё гэта зарабляецца (калі пашанцуе) вялікай працай у любой краіне. Да прыкладу, я ведаю многіх таленавітых музыкантаў, якія з'ехалі за мяжу, падзарабляюць таксістамі, кур'ерамі, а некаторыя нават прадаўцамі і прыбіральшчыкамі... Я ўжо не кажу пра прыватныя ўрокі і працу ў рэстаранах. Калі ёсць жаданне нешта рабіць, не трэба апускаць рукі перад першымі праблемамі, цяжкасцямі. Можна знайсці выхад з любой сітуацыі і рухацца далей.

**— Так ці інакш беларускія таленты часта з'язджаюць за мяжу. Што рабіць, каб пакінуць іх на радзіме? Чаго маладым не хапае для больш камфортнай рэалізацыі?**

— Калі казаць пра класічных музыкантаў, то, сапраўды, шмат хто з'язджае па розных прычынах: на вучобу, на заробкі. Гэта нармальны працэс. Многія з тых, хто пакінуў Беларусь, цяпер вяртаюцца. Не думаю, напрыклад, што неабходна павялічыць колькасць канцэртных пляцовак. Проста кожны павінен займацца сваёй справай. Калі граеш, рабі цікавыя праграмы, пастаянна працуй над музычнай формай, шукай унікальны выканальніцкі стыль і слухача — і тады будзе поспех на любой прасторы.

**— Рэпертуар Паўла Кухты — які ён?**

— Уключаю музыку многіх стыляў і эпох: ад барока да нашых сучаснікаў. Люблю джаз. А праграмы падбіраю спецыяльна да кожнага канцэрта. Выбудоўваю іх такім чынам, каб выглядаць разнастайным па стылі і жанрах. Мае слухачы кожны раз могуць пачуць як знаёмыя, так і новыя творы для гітары. Многія пытаюцца, ці пішу я музыку сам. Адразу скажу, што не. Гітара, канечне, дазваляе нешта прыдумляць. Але мне дастаткова захаплення ад таго, што напісалі іншыя, вартыя кампазітары.

**— Ці выпрацаваны ў вас свае ўнікальныя прыёмы, сакрэты гітарнага майстэрства? Тое, што можна перадаць пачаткоўцам...**

— Безумоўна, у кожнага музыканта з часам назапашваюцца неслабыя веды, назіранні ў галіне выканальніцтва, якімі можна падзяліцца з тымі, хто пакуль яшчэ не знайшоў адказаў на пытанні, хто толькі пачынае ісці. Упэўнены, што

> *А яшчэ трэба ўвесь час заставацца вучнем. Пастаянна асвойваць нешта новае, чытаць кнігі, слухаць музыку ў добрым выкананні, наведваць канцэрты іншых выканаўцаў, знаходзіць новыя гучанні, фарбы свайго інструмента. Не стаяць на месцы.*

кожны музыкант павінен мець адмысловае стаўленне да публікі. Калі чалавек купіў білет і прыйшоў на мой канцэрт — для мяне гэта ўжо істотна, шмат чаго значыць. І няважна, у якой краіне. Буду старацца паказаць лепшы вынік.

Вельмі каштоўна наведваць майстар-класы. Доўжацца яны звычайна 30 — 45 хвілін. Не ўсё можна прапрацаваць за такі кароткі прамежак часу, але задача педагогаў у дадзеным выпадку — накіраваць вучня, каб той працаваў далей самастойна. Мне гэта вельмі дапамагае.

**— Павел, а што трэба, акрамя таленту, каб перамагчы на прэстыжным конкурсе?**

— Працавітасць і шанцаванне. А яшчэ трэба ўвесь час заставацца вучнем. Пастаянна асвойваць нешта новае, чытаць кнігі, слухаць музыку ў добрым выкананні, наведваць канцэрты іншых выканаўцаў, знаходзіць новыя гучанні, фарбы свайго інструмента. Не стаяць на месцы. Мне прасцей, бо патрэбен рух, прычым ва ўсім. Хоць цішыня — ідэальная атмасфера для рэпетыцый. А вось адпачынак — актыўны. Калі атрымліваецца знайсці вольны час, хаджу ў тэатр, гляджу добрыя фільмы, чытаю кнігі, наведваю басейн, гуляю ў настольны тэніс, сустракаюся з сябрамі, ды і проста люблю гуляць на свежым паветры, у думках.

**— Ці ёсць у Беларусі годныя гітарныя фестывалі? Як ідуць справы, скажам, з запісам кампакт-дыскаў? Дзе ўвогуле маладым музыкантам можна заявіць пра сябе на працягу года?**

— Мабыць, самы галоўны беларускі гітарны фестываль — «Рэнесанс гітары», ладзіцца ён штогод у Гомелі. Адзіны, які існуе ў нас больш за 20 гадоў! Дыскі я запісваў за мяжой. Напэўна, у нас таксама можна, не ведаю.

Калі ты яшчэ вучышся, то рэгулярна праводзяцца справаздачныя канцэрты, святочныя мерапрыемствы на розных пляцоўках, у тым ліку ў Белдзяржфілармоніі. Паказаць свой талент можна на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. Перамога, дарэчы, адразу ж дае магчымасць пашырыць геаграфію выступаў. Для тых, хто ўжо скончыў вучобу, трэба станавіцца больш самастойным, ініцыятыўным, каб працягваць дзейнасць. Ужо не будзе педагогаў, якія пастаянна падштурхоўваюць у спіну.

Але я лічу, што, перш чым выступаць на сцэне, трэба прайсці доўгі шлях удасканалення: ад музычнай школы да акадэміі музыкі, выехаць пару разоў на стажыроўку ці хаця б паўдзельнічаць у майстар-класах у прызнаных мэтраў музычнага мастацтва (на жаль, як правіла, яны праходзяць за мяжой).

**— Вы скончылі музычную школу, затым вучылішча і, нарэшце, акадэмію музыкі. Класічнае трыа. Што скажаце пра ўзровень гітарнай адукацыі ў нашай краіне? Чаго не хапае?**

— Беларуская гітарная школа дастаткова моцная. Нашых гітарыстаў ведаюць і паважаюць у свеце. Многія з іх працягваюць вучобу за мяжой, некаторыя актыўна канцэртуюць, а таксама ўдзельнічаюць у міжнародных конкурсах. І перамагаюць. Але я б параіў надаваць больш увагі тэхніцы выканання. Шмат тых, хто валодае ведамі, добрай інтуіцыяй, густам, але з дапамогай звыклых прыёмаў ігры, аплікатуры, штрыхоў не могуць у поўнай меры ажыццявіць на інструменце задуманае. Таксама варта звяртаць увагу на праблемы, звязаныя з выканальніцкім апаратам (гэта рукі музыканта) і пасадкай за інструментам. Каб не было потым праблем.

> *Не думаю, напрыклад, што неабходна павялічыць колькасць канцэртных пляцовак. Проста кожны павінен займацца сваёй справай. Калі граеш, рабі цікавыя праграмы, пастаянна працуй над музычнай формай, шукай унікальны выканальніцкі стыль і слухача — і тады будзе поспех на любой прасторы.*

**— Памятаеце сваё першае выступленне?**

— Сур'ёзнае — так. Аднойчы ў вучылішчы мы з выкладчыкам рыхтаваліся да міжнароднага конкурсу ў Польшчы. Я добра вывучыў праграму да трох тураў, але так выйшла, па іроніі лёсу, што патрапіць да палякаў нам не ўдалося. Педагог не разгубіўся, прапанаваў перайграць сцэнар. Так, ва ўзросце 17 гадоў я выканаў свой першы сольнік у канцэртным зале Гродна.

**— А якія ў вас уражанні ад сольнага канцэрта, які прайшоў 16 красавіка ў Мінску? Да чаго рыхтуецеся цяпер?**

— У цэлым станоўчыя. Публіка з цікавасцю прыняла прэм'ерную праграму, а таксама новы дуэт гітары і флейты Таццяны Кармазінавай. У той вечар была прадстаўлена музыка Аргенціны, Беларусі, Балгарыі, Італіі, Францыі. Цяпер рыхтуюся да выступу ў Германіі. Магчыма, будзе Польшча і Венгрыя.

**— Наколькі наша публіка гатовая да ўспрымання класічнай музыкі? З чаго трэба пачынаць, каб далучыць людзей да мастацтва, якое стаіць на прыступак вышэй за тую ж эстраду?**

— У Беларусі шмат людзей, якія цікавяцца, слухаюць і любяць класічную музыку. Як правіла, гэта пачуццё закладваецца з дзяцінства, у тым ліку ў сям'і. А далей чалавек ужо сам выбірае, што лепш: эстрада, класіка, рок. Мне здаецца, можна сумяшчаць усё. Класічная музыка заўсёды была элітарнай. Таму прымушаць слухаць яе не варта. Чалавек сам павінен прыйсці да гэтага. Напрыклад, я ведаю некаторых людзей, якія аднойчы прыйшлі на мой канцэрт выпадкова: ці квіток падарылі, ці за кампанію з сябрамі. І вось ужо на працягу многіх гадоў яны па ўласным жаданні прыходзяць на класічныя выступы, у якіх я ўдзельнічаю ці якія арганізоўваю, сочаць за маімі поспехамі на конкурсах. Таму многае залежыць і ад самога выканаўцы.

**— Ці праўда, што кожная гітара ў музыканта мае сваё імя, сваю аўру і нават характар?**

— Напэўна, ёсць выканаўцы, якія даюць сваім гітарам імёны. Але я дакладна ўпэўнены толькі ў тым, што кожны інструмент мае сваё непаўторнае гучанне. Многае залежыць ад дрэва, канструкцыі і, вядома ж, ад майстра, які гэтую гітару зрабіў, калі інструмент майстравы. Ёсць такія, да якіх трэба доўга прывыкаць і якія не цярпяць «працяглых здрад» гаспадара з іншымі гітарамі. Гэта вялікая радасць, калі музыкант знаходзіць свой інструмент.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Заклік любіць

## Родная зямля ў адлюстраванні мастака Уладзіслава Пятручыка



Прастасць формы і візуальнага ўспрымання прадугледжвае глыбокі мастацкі сэнс з мудрасцю і жыццёвым досведам. Жывапіс без мудрагелістых сюжэтаў і эмацыянальных кантрастаў у маладым асяродку — практычна выключэнне, страчаная пазіцыя. Але ж застаюцца маладыя творцы, якія мастацкі шлях будуюць не ў задзірлівай манеры, што схіляе гледача да ўнутраных супярэчнасцяў, а звяртаюцца да традыцыйнага, рэалістычнага мастацтва, якое захапляе тонкасцю адлюстравання. Малады жывапісец Уладзіслаў Пятручык працуе ў жанры рэалістычнага пейзажа і нацюрморта. Ён упэўнены, што менавіта традыцыйны жывапіс глыбока раскрывае мастака перад гледачом, паказвае шчырасць яго матываў і адданасць справе. За плячыма Уладзіслава Пятручыка невялікая колькасць персанальных выставак, але нядаўна творцу пашанцавала: арт-гасцёўня «Высокае месца» прадаставіла аўтару выставачныя залы для арганізацыі новай выстаўкі жывапісу «Маімі вачыма».

Прадстаўленая экспазіцыя — мастацкі дзённік, які захоўвае асабістыя сакрэты аўтара, яго таемныя перажыванні, пэўныя моманты бязмежнага шчасця і нечаканага расчаравання. Жывапіс настолькі натхнёны, што, праходзячы ад адной карціны да наступнай, адчуваеш: пейзажы жывыя, дыхаюць свежым паветрам і існуюць у прасторы нібы дапаўненне адзін аднаму, працяг мастацкага сюжэта. Кожны краявід знаёмы воку, бо гэта ўсё беларуская прырода, насычаная адценнямі чысціні, празрыстасці. Трапляеш у вясновы лес, апынаешся на рамонкавым полі альбо басанож стаіш на беразе халаднаватай ракі, і ўсюды неба, блакіт якога нельга параўнаць ні з чым. Ахутваюць саладкаватыя пяшчотныя пахі прыроды, што пераносяць у памятныя моманты дзяцінства, юнацтва, дзе шчырасць і душэўнасць калісьці былі асноўнымі крытэрыямі жыцця.

Уладзіслаў Пятручык прадставіў каля ста жывапісных твораў. Творчасць аўтара — заклік любіць: прыроду, асяроддзе і абавязкова родную зямлю. Ён акцэнтуе ўвагу на бязмежнай сувязі чалавека і прыроды.

Нягледзячы на традыцыйны, рэалістычны падыход у творчасці, мастак спрабуе не крочыць па шляху таленавітых класікаў жывапісу. Разглядаючы іх творчыя напрамкі і пераасэнсоўваючы традыцыі, ён захоўвае індывідуальнасць. У выніку творы адрозніваюцца пэўным светапоглядам і трапяткой эмацыянальнасцю.

Важнае месца ў сюжэтах аўтара займаюць вясковыя людзі. Часцей паказаныя ў справе: мужчыны занятыя на сенажаці, жанчыны наводзяць парадак каля хаты. Пэўнага рэгіёна не пазнаеш: мастак імкнецца да адлюстравання ўсёй Беларусі, і не той, якая сёння падуладная цывілізацыі. Ён дэманструе сюжэты з жыцця нашых бацькоў, бабуль і дзядуль, якія ад таго ладу жыцця атрымлівалі асалоду, якія жылі родным кавалачкам зямлі і ведалі, што яму цаны няма. У захапленні прастасцю і ідэальнасцю момантаў мастак паказвае імкненне да дасканаласці жывапісу.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**



*«Вартаўнік», 2014 г.*

## *Культурны ракурс*




Музей-галерэя «Янушкевічы» — адна з галоўных і незвычайных славутасцей Ракава. Ідэя стварэння музея з'явілася ў Фелікса Янушкевіча, калі мастак наведаў Тэатр-музей Сальвадора Далі ў іспанскім горадзе Фігерас. Тады і вырашыў: нешта падобнае, цікавае і нетрадыцыйнае, павінна быць і на беларускай зямлі. Са сталіцы творца пераехаў у Ракаў, дзе разам з братам, скульптарам Валяр'янам Янушкевічам, за асабістыя сродкі стварыў арыгінальны музей.

Сёння ў музеі-галерэі «Янушкевічы» захоўваецца больш чым дванаццаць тысяч экспанатаў. Сярод іх — старажытныя дакументы, мэбля, музычныя інструменты, фрагменты слуцкіх паясоў, якія калісьці ткалі ў Ракаве. У кожнага прадмета цікавая гісторыя, якую Фелікс Янушкевіч характарызуе як маленькае жыццё. А знаходзіліся экспанаты па-рознаму, некаторыя былі выяўлены падчас археалагічных раскопак, некаторыя падаравалі музею мясцовыя жыхары, а пэўныя рэчы ўвогуле знойдзены на сметніцы.

Сёння славуты музей мае статус галерэі акадэміі выяўленчага мастацтва. Аднак такая назва сярод мясцовага насельніцтва не прыжылася, таму, завітаўшы ў Ракаў, шукайце менавіта галерэю Янушкевічаў.

**Ганна АНДРЭЕВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 19.05.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1736.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1880

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686